# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 31 (293) 9 — 15 жніўня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ





ЗАЦВЯРДЖАЮ

Міністр культуры
Рэспублікі Беларусь

А.У.Сасноўскі




25.0[illegible].1997 г.

6 жніўня ў Нацыянальным прэс-цэнтры адбылася сустрэча журналістаў з міністрам культуры Беларусі Аляксандрам Сасноўскім. Яна прысвячалася "гарачай" і "далікатнай" праблеме, якая выкладзена ў дакуменце, што мы ніжэй друкуем.

Калаж Наталлі ОВАД

## ПАЛАЖЭННЕ

***аб парадку публічнай дэманстрацыі кінааўдыёвізуальных твораў, выпуску друкаванай прадукцыі эратычнага характару, а таксама прадукцыі сексуальнага прызначэння, іх распаўсюджвання і рэкламавання фізічнымі і юрыдычнымі асобамі.***

Палажэнне распрацавана ў адпаведнасці з Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 21 студзеня 1992 "Аб мерах па спыненні прапаганды парнаграфіі, культу насілля і жорсткасці" і Распараджэннем Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 18 лютага 1992 № 136р для ўпарадкавання публічнай дэманстрацыі кінааўдыёвізуальных, тэатральных, эстрадна-канцэртных, цыркавых праграм і прадстаўленняў, шоу-вар'етэ, выпуску, распаўсюджвання і рэкламы твораў літаратуры, публіцыстыкі, выяўленчага мастацтва, фотапрадукцыі, сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды, друкаваных выданняў і прадметаў эратычнага характару, сексуальнага прызначэння з мэтай спынення прапаганды парнаграфіі, насілля і жорсткасці.

Для забеспячэння гэтага дзяржаўныя ведамствы, мастацкія і вучоныя саветы творчых і навуковых арганізацый, устаноў культуры, мастацтва і адукацыі, рэдакцыйныя калегіі выдавецтваў і сродкаў масавай інфармацыі, прадпрыемствы гандлю, грамадскага харчавання і адпачынку ўсіх формаў уласнасці ў кожным канкрэтным выпадку вызначаюць сістэму мер па спыненні прапаганды парнаграфіі, насілля і жорсткасці ў адпаведнасці з дадзеным Палажэннем і дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

*(Працяг на стар. 2—3.)*

# АРЫЕНЦІРЫ РЭКТАРА

***З міжнароднага біяграфічнага слоўніка, т.26, Кембрыдж***

***Скараходаў Уладзімір Паўлавіч, нарадзіўся 14.02. 1939 у г.Клімавічы Магілёўскай вобласці. Прафесар. Прафесія: артыст аркестра, культуролаг. Жанаты з 28.01.1961. Жонка — Скараходава Валянціна (дзеці: сын Уладзімір, дачка Кацярына). Адукацыя: Акадэмія грамадскіх навук, Масква, 1985, Беларуская дзяржаўная кансерваторыя імя Луначарскага, Мінск, 1963.***

***Кандыдат філасофскіх навук з 1993 года. Займаемая пасада: рэктар Беларускага інстытута праблем культуры. Публікацыі: 21 навуковы артыкул, манаграфія "Мастацкая культура ў дынаміцы грамадскага ўспрыняцця". Членства: віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі навуковай і творчай інтэлігенцыі, член Прэзідыума Саюза музычных дзеячаў Рэспублікі Беларусь, член Міжнароднай камісіі па навуцы і даследаваннях Міжнароднай арганізацыі па народнай творчасці, член-карэспандэнт Міжнароднай Акадэміі навук Еўропы і Азіі.***



РЭПАРЦЁРСКІ МАРАФОН

Журналісцкія лёсы і жыццёвыя калізіі нялёгка прадугадаць. Апошні раз я бачыў Скараходава трынаццаць гадоў таму на мінскім стадыёне "Дынама", дзе адзначалася асаблівае для Беларусі свята — 40-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Было шмат перадсвяточных хваляванняў, каля года падрыхтоўкі, рэкордны нават у параўнанні з маскоўскай алімпіядай лік удзельнікаў, маса клопатаў і цяжар вялікай адказнасці стваральнікаў грандыёзнага тэатралізаванага відовішча. Я ўваходзіў у пастановачную групу ў якасці сцэнарыста. Прадстаўнікоў ЦК, міністэрстваў і ведамстваў, якія адказвалі за стадыённае дзейства, вельмі хваляваў фініш: "каб усё было добра", — яны неслі адказнасць перад сваім начальствам. І таму часта перашкаджалі пастановачнай групе, нервуючы людзей, што працавалі "да вымогі": намаляваць свята з 16 тысяч чалавек — справа нялёгкая.

Запомніўся маладжавы, спартыўнага выгляду чалавек, які не перашкаджаў і кантактаваў з намі добразычліва, спагадліва, "без нерваў".

"Гэта Скараходаў, — сказалі мне, — намеснік міністра культуры". Намеснік міністра мне спадабаўся: спакойны, прыгожы, адчувалася "ўнутраная" годнасць. Я так расшыфраваў для сябе гэтага чалавека: у яго за плячыма вопыт не толькі міністэрскай работы. І, як паказала жыццё, не памыліўся. Але ў тлуме падрыхтоўкі цыклапічнага стадыённага дзейства, шчыра кажучы, было не да міністэрскіх "тузоў", якімі б добрымі яны ні былі.

І вось праз столькі гадоў я сяджу ў "зялёналугаўскім" рэктарскім кабінеце Уладзіміра Паўлавіча, і мы ўспамінаем мінулыя дні, якія былі сапраўды не такія ўжо і дрэнныя, таму што былі гадамі нашай маладосці. І тут я даведваюся пра некаторыя "моманты" творчай біяграфіі гэтага чалавека. Калі ён смяецца, — ну ніяк не ўяўляеш яго галавой "клана": дачка, сын, дзве ўнучкі. Мне цікава, і я не магу сябе стрымаць, — але без цікавасці няма і журналістыкі — і пытаюся: як гэта намеснік міністра і не з горшых, пайшоў з роднага міністэрства? Смяецца і зноў робіцца вельмі маладым, што зусім няцяжка пры яго спартыўнай фігуры (а за плячамі — амаль шэсць дзесяткаў гадоў). "Выклікалі, паведамілі, што перабудова загадвае мяняць кадры, і, як кажуць, у вашых паслугах..." Пытаюся ва Уладзіміра Паўлавіча: "А як патлумачылі?" — "Дык у тым уся і справа, што ніяк. Шчыра кажучы, мяне гэта не вельмі абразіла. Я ж артыст, а чыноўнікам зрабіўся выпадкова. Я быў дырэктарам музвучылішча ў Мінску. Шмат працаваў, прыдумваў, былі поспехі. А тут паклікалі ў міністэрства, прапануюць перайсці да іх. І вельмі настойліва. Колькі змог, супраціўляўся. Але ў той час доўга "ўпірацца" пры павышэннях было небяспечна. Згадзіўся. Не чакаў, але даволі хутка пайшоў угару. Зрабіўся намеснікам міністра. І кажу на ўсю вашу газетную аўдыторыю: многа і сумленна папрацаваў у міністэрстве для беларускай культуры". "А вам што дало крэсла высокага чыноўніка?", — пытаюся ў яго з націскам. Адказвае сур'ёзна: "Шмат паездзіў па свеце — пабачыў, павучыўся. Гэта было карысна: у міністэрстве я вёў усе творчыя накірункі і кадры. А новай кватэры я — адзіны з 33 намеснікаў у рэспубліцы — не атрымаў. Вось вучняў сваіх, будучых кларнетыстаў, я не кідаў нават у час працы ў міністэрстве. Тады гэта лічылася "непрыстойным": працуеш у міністэрстве — ну і працуй, аддавай усе сілы на карысць... А я не мог іх кінуць. І душа патрабавала... Вось так паціху, у таямніцы і выкладаў усе сем з паловай гадоў у рангу намесніка міністра.

У мяне 11 вучняў — лаўрэаты розных міжнародных конкурсаў. Вось гэта і ёсць адзін з вынікаў. І гэта прадмет майго гонару". — "Сустракаецеся з вучнямі?" — "Зразумела. І гэта — адна з уцех майго сэрца. Нядаўна патэлефанаваў лаўрэат двух міжнародных конкурсаў Аляксей Вакуленка. Яго запрасілі ў Нацыянальны бразільскі аркестр. Раіўся..."

Мой візіт да яго часта перарываўся: заходзілі людзі, аб нечым гаварылі, штосьці падпісвалі, гучалі званкі — ішла звычайная праца вялікай установы. І чалавек, з якім я гутарыў, знаходзячыся на вяршыні гэтай піраміды, заставаўся яшчэ і проста чалавекам, які жартаваў, усміхаўся, злаваўся. Усе яго выказванні былі ўзважаныя, адчувалася ўменне гаварыць, даводзіць, спрачацца. Ён умее кантактаваць і пры гэтым не націскаць на субяседніка. І яшчэ адна рыса, без якой няма Уладзіміра Скараходава, які нарадзіўся ў вёсцы Канцы, дзе ён упершыню ў 14 гадоў пачуў радыё і адкуль здзейсніў сваё ўзыходжанне на вышыні духу, музыкі і дзяржаўнага будаўніцтва. Ён спакойны і ўпэўнены ў сабе чалавек. Ён ведае, чаго ён варты і што стаіць за ім: якое жыццё і якія ўменні. "Калі б не спалучэнне вопыту працы ў мастацтве з вопытам працы ў міністэрстве, я б ніколі не здолеў пабудаваць і запусціць інстытут", — спакойна гаворыць ён. Мусіць, узгадалася, чаго гэта яму каштавала. "Выкарысталі асабістыя сувязі і знаёмствы?" — "Для святой справы — не забараняецца".

Сёння "інстытут Скараходава" (я з задавальненнем называю яго так) — гэта культурны, метадычны і арганізацыйны цэнтр нашай беларускай культуры. Каб распавесці пра яго справы — трэба было б напісаць кнігу. У артыкуле можна пазначыць прынцыпы і даць прыклады.

Існавалі тры арганізацыі, якія забяспечвалі навуковыя, вучэбныя і метадычныя інтарэсы Мінкульта: навукова-метадычны цэнтр, інстытут падвышэння кваліфікацыі і метадычная лабараторыя. "Непатрэбныя тры ўстановы, гэта распыленне, дубляж, нездаровая канкурэнцыя, — выказаў сваю думку міністру яго падначалены. — Патрэбны адзін інстытут. Сабраць неабходныя сілы — навукоўцаў высокага класа, метадыстаў па профілях, даць ім тое, што неабходна для беларускай культуры". Міністр быў разумны — Яўген Вайтовіч. Ён прыклаў да ідэі сваю руку. Быў створаны інстытут — Праблем культуры Беларусі. А рэктарам яго прызначаны прафесар Скараходаў. Шосты год кіруе ён гэтым незвычайным навуковым, метадычным і вучэбным цэнтрам — надзеяй і апорай не толькі Мінкульта Рэспублікі, але і самой культуры.

"Інстытут Скараходава" створаны (і ажыццяўляе гэта) для выпрацоўкі палітыкі культуры (і культурнай палітыкі), здзяйснення, накіравання і арганізацыі гэтай палітыкі. Рэальныя "зямныя" арыенціры дапамаглі рэктару "перабудаваць" навукова-метадычную працу інстытута, зыходзячы з "новага" жыцця, у якое шмат хто ўступіў, як у халодную ваду. База і матэрыяльныя магчымасці засталіся старыя, затое, утрая скараціўшы колькасць людзей (тры ўстановы аб'ядналіся ў адну), Скараходаў здолеў узняцца на новы ўзровень стасункаў з працаўнікамі, а значыць і на новую якасць: адбор у інстытут ідзе толькі па конкурсе і дамове. Кожны год чалавек павінен быў пацвярджаць сваю працоўную неабходнасць інстытуту.

— Так і існуем, штогод даводзячы сваю неабходнасць беларускай культуры, — смяецца ён. — Спачатку палохаліся, цяпер прызвычаіліся. Справе — карысць. Людзі сталі больш самастойнымі. Карацей, вучымся жыць і працаваць. Гэты працэс бясконцы. Карыстаючыся момантам, скажу, што інстытут атрымлівае канкрэтную, дзейсную дапамогу з боку міністра культуры Аляксандра Сасноўскага.

— І чаму ж за пяць з гакам гадоў навучыліся і навучылі?

Ён распавядае. Шчыра, лаканічна, выяўляючы сваю асабістую зацікаўленасць, і я разумею, што, мабыць, тут і былі ўкладзены ягоныя ідэі. Наогул ён мне падабаецца менавіта асабістай зацікаўленасцю да справы. Такія людзі здольныя да здзяйснення. Яны не абыякавыя.

Паводле структуры Скараходаўскі "культурны" інстытут — гэта незвычайная ўстанова. Яна ўключае ў сваю сістэму: навуковае "падраздзяленне", вучэбнае (тут адбываецца перападрыхтоўка кадраў для беларускай культуры); ёсць аддзелы, што займаюцца методыкай і арганізацыяй працэсу "акультурвання" насельніцтва; ёсць аддзелы народнай творчасці, планавання культуры краіны. Ёсць выдавецкі цэнтр, які па сутнасці з'яўляецца мініяцюрным выдавецтвам для тэрміновых патрэб беларускай культуры. Плануецца выданне часопіса па народнай творчасці.

Гэта — ці не адзіная такая шматмэтавая вучэбна-выдавецкая ўстанова на ўсёй прасторы былога СССР.

Ён дастае з кішэні фота дзяцей і ўнукаў: І вочы гэтага сталага, вопытнага чалавека-кіраўніка мяняюць свой выраз. У мяне мільгае думка: зараз ён, нягледзячы на ўсё, што зроблена, думае пра тое,

## ПАЛАЖЭННЕ

### *аб парадку публічнай дэманстрацыі кінааўдыёвізуальных твораў, выпуску друкаванай прадукцыі эратычнага характару, а таксама прадукцыі сексуальнага прызначэння, іх распаўсюджвання і рэкламавання фізічнымі і юрыдычнымі асобамі.*

*(Працяг. Пачатак на стар. 1.)*

1. У гэтым Палажэнні асноўныя паняцці выкарыстоўваюцца ў наступных значэннях:

1.1. Эратычнае мастацтва — адлюстраванне чалавека ва ўсім багацці яго перажыванняў з улікам полаўзроставых і індывідуальных асаблівасцей людзей. Эратычнае мастацтва гуманістычнае і маральнае, сінкрэтычнае, цэласнае, неўтылітарнае, самацэннае, індывідуальнае, яно будуе свой свет па законах прыгажосці, адухаўляе сексуальнасць, сцвярджае сапраўды чалавечае ў адносінах полаў;

1.2. Парнаграфія — гэта вульгарна-натуралістычная, агідна цынічная, непрыстойная фіксацыя палавых зносін, самамэтавая, наўмысная дэманстрацыя пераважна агаленых геніталіяў, антыэстэтычных сцэн палавога акта, сексуальных скажэнняў, замалёвак з натуры, якія не адпавядаюць маральным крытэрыям, абражаюць гонар і годнасць асобы, часам ставячы яе ніжэй праяў жывёльных інстынктаў;

1.3. Парнатворы — гэта ці то аўтарскія, ці то ананімныя творы, як правіла, тэндэнцыйна прамалінейныя, эклектычныя, засяроджаны на плоцева-фізіялагічных аспектах сакуплення асоб, нярэдка адлюстраванне парнадзеянняў дапаўняецца сцэнамі жорсткасці, насілля, маральнай разбэшчанасці. Інтымнае ў сексе бесцырымонна выстаўляецца напаказ;

1.4. Творы, што прапагандуюць насілле і жорсткасць, — гэта творы, якія арыентуюцца на самамэтную дэманстрацыю актаў насілля і жорсткасці. У такіх творах, як правіла, смакуюцца сцэны садызму, празмернай жорсткасці, асабліва ў адносінах да дзяцей і жывёл, у тым ліку і сексуальнае насілле, паказваюцца сцэны расчлянення ахвяр, катаванняў, знішчэння людзей асабліва пачварнымі спосабамі, буйныя працяглыя планы змучаных людзей і жывёл, насілля над трупамі, метады вырабу і выкарыстання як звычайнай зброі, так і прыстасаванняў для катавання. Такія крывавыя сцэны займаюць асноўны экранны час ці вялікі аб'ём у відэа- і друкаванай прадукцыі, якая праслаўляе шавінізм і нацыянальную выключнасць, расізм і рознага роду асобныя місіі "выпраўляльнага" характару, а таксама прапагандуе войны і канфлікты як лакальныя, так і ў маштабе Сусвету. Адносіны паміж людзьмі, жывёламі і навакольным светам у такой прадукцыі перабольшана жорсткія, бескампрамісныя, алагічныя, чалавеканенавісніцкія, эгацэнтрычныя, якія наводзяць на думку аднамернай антыгуманнай жыццёвай пазіцыі — "забі ці заб'юць цябе", дзе татальнае насілле над асобай — адзіны спосаб існавання. Мова такіх твораў прымітыўная і адназначная, характарызуецца абвостранай грубасцю, цынізмам, зневажаннямі, паклёпам, абразамі, лаянкай як дарослых, так і дзяцей.

Творы, якія прапагандуюць насілле і жорсткасць, адлюстроўваюць вульгарна-грубыя, амаральныя эмоцыі і ўчынкі індывіда, а то і яго садысцкія, крыважэрныя, чалавеканенавісніцкія, эгацэнтрычныя схільнасці, што вядзе да жорсткасці і насілля ў жыцці і мастацтве, да тэорыі расавай і нацыянальнай выключнасці, мізантропіі.

#### *Прадукцыя друку і друкаваная прадукцыя сродкаў масавай інфармацыі*

2. Да прадукцыі друку і друкаванай прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі, якая змяшчае элементы эротыкі, насілля і жорсткасці, адносяцца:

2.1. **прадукцыя, якая спецыялізуецца на паведамленнях і матэрыялах эратычнага характару (уласна эратычнай праблематыкі),** — творы мастацкай літаратуры розных жан-

што галоўнае — вось гэта, дзеці, унукі. Як жа хочацца, каб яны жылі годна...

Жонку ён знайшоў "на бульбе". Ён быў на трэцім курсе кансерваторыі, яна на першым. Так і пажаніліся — студэнтамі. Праз год ён выйграў конкурс і быў залічаны ў аркестр Тэатра оперы і балета. А яшчэ праз паўгода стаў яго салістам. Потым было Мінскае музычнае вучылішча, дацэнцтва ў кансерваторыі, пасады ў міністэрстве культуры — да намесніка міністра. У "трэцюю" змену — любімая музыка, вучні, дысертацыя. У чацвёртую — дом, унукі.

І нарэшце сваё дзецішча — інстытут.

Шырокаахопная дзейнасць гэтага цэнтра — адбітак інтарэсаў яго рэктара. Адзін пералік яго накірункаў выклікае павагу (заўважце, што ўсё адбываецца на вядомым нам фоне немалых эканамічных праблем у дзяржаве): інстытут з'яўляецца кіраўніком распрацовак дзяржаўнай праграмы "Культура" (такая распрацоўка ў такіх маштабах праводзіцца ўпершыню ў гісторыі Беларусі): работы па стварэнні электроннай энцыклапедыі "Беларуская культура", падрыхтоўка анталогіі "Традыцыйная мастацкая культура беларусаў", сацыялагічныя даследаванні праблем культуры і рынку, праца над двухтомнікам нарматыўных актаў у галіне мастацтва і культуры; даследаванні стану прафесійнага мастацтва ў 90-я гады; вывучэнне стану музейнай справы ў рэспубліцы... Падрыхтоўка VI Еўрапейскай канферэнцыі па народнай творчасці (верасень 1997 года) у Мінску і канферэнцыі "Чалавек. Культура. Экалогія" (лістапад 1997 года) у Гомелі.

— Еўропа прызнала?

— Прызнала, — смяецца. — Гэта прыемна, але не гэта галоўнае. Культуру адным махам не падымеш — гэта не штанга. Тут усё напрацоўваецца паступова і, галоўнае, стала і з любоўю. Не будзе культуры — не будзе нічога. І тое, што ўпершыню на Беларусі на распрацоўку праграмы "Культура" выдзелілі ў сённяшні нялёгкі час тры мільярды рублёў — на тэорыю! — і наш інстытут стаў у гэтым галаўной арганізацыяй, — шмат пра што гаворыць.

— Ці не маглі б вы расказаць пра гэта?

— Думаю, што пра гэта вам падрабязна раскажа мой намеснік па навуковай рабоце прафесар Арнольд Яфімавіч Міхневіч.

На гэтым мы і развіталіся, пасмакаваўшы каву і ўзгадаўшы справы нядаўняга мінулага. Рэктар паказаў мне лісты сваіх вучняў, шматлікія запрашэнні на міжнародныя культурныя сустрэчы, творчыя семінары... Я павіншаваў яго з нядаўнім наданнем звання заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі і пажадаў поспеху ў працы, так патрэбнай Рэспубліцы.

# ПЕРШЫЯ ТРЫ МІЛЬЯРДЫ? ХАЙ БУДУЦЬ НЕ АПОШНІЯ!

Гэта было на пачатку мінулага года. Ва ўрадзе фарміравалі дзяржаўную праграму — навукова-тэхнічную. Хтосьці разумны спытаўся: "А чаму толькі тэхнічную, а гуманітарную? Ці не існуюць сапраўды адукацыя, эканоміка, культура?"

Сапраўды, падумалі дзяржаўныя мужы, — і традыцыя была парушана ў лепшы бок, — не зусім паводле астаткавага прынцыпу, — але слова "тэхнічная" пакінулі. Так і запісана ў Пастанове Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 21 красавіка 1997 года за № 379 "Аб зацвярджэнні асноўных заданняў дзяржаўных навукова-тэхнічных праграм". У гэтым дакуменце побач з дзяржаўным рашэннем аб "Белсувязьтэхніцы", прамысловых стандартах і эканоміцы былі такія чатыры радкі: "Распрацаваць навукова-метадычныя асновы нацыянальна-культурнага развіцця ва ўмовах дэмакратычнай прававой дзяржавы ("Культура"). Дзяржаўны замоўца — "Міністэрства культуры". Галоўным выканаўцам работ па гэтай праграме па выніках конкурсу прызначаны Беларускі інстытут праблем культуры РБ. Каштарысная вартасць гэтай праграмы — 3 мільярды рублёў. Тэрмін — два гады. Скажам так: гэта быў учынак Савета Міністраў. Упершыню за ўсю гісторыю Беларусі культура атрымала на стварэнне тэорыі свайго развіцця, на навуку такую суму. (Да гэтай пастановы ўся бюджэтная "культурная" навука абыходзілася Беларусі ў кошт адной лабараторыі пры кансерваторыі штатам у пяць адзінак.)



Я сяджу ў невялікім кабінеце першага прарэктара па навуковай працы Беларускага інстытута праблем культуры, доктара філалагічных навук, прафесара-культуролага Арнольда Міхневіча, і ён распавядае аб праграме "Культура". (Мне прыемна, што назва праграмы супадае з назвай газеты, якую я прадстаўляю, і гэта надае размове дадатковую цеплыню.)

Арнольд Яфімавіч — чалавек у жыцці і ў навуцы Беларусі карэнны. Ён нарадзіўся ў Мінску ў 1936 годзе ў сям'і вайскоўца. Вярнуўся з эвакуацыі ў Слонім, скончыў школу, Гомельскі педінстытут, настаўнічаў у Бабінічах. Аспірант у інстытуце Акадэміі навук. Навуковы кіраўнік — Кандрат Крапіва. Тэма кандыдацкай дысертацыі — тэорыя граматыкі беларускай мовы. У 27 гадоў — кандыдат навук, у 40 — доктар. 25 гадоў працы ў акадэмічным Інстытуце мовазнаўства. Потым кафедра журналістыкі ў БДУ, Інстытут паліталогіі — загадчык кафедры тэорыі і гісторыі культуры, прарэктар па навуцы ў Інстытуце замежных моваў і — кабінет у "інстытуце Скарахода", дзе мы з ім размаўляем.

Міхневіч — аўтар больш трохсот навуковых публікацый і двух дзесяткаў кніг, акадэмік Міжнароднай Акадэміі навук Еўропы і Азіі. Ён вядучы спецыяліст у распрацоўцы прынцыповых накірункаў праграмы "Культура".

**— Арнольд Яфімавіч, пазнаёмце нашых чытачоў з асноўнымі палажэннямі праграмы "Культура".**

— Усяго пазначана і зацверджана 9 праграмных навуковых накірункаў і тры накірункі-падтрымкі. Яны вызначыліся не адразу. Было намечана, так сказаць, кола "зацікаўленых" установ і структур, арганізацый, аўтарытэтных навукоўцаў, прайшлі дыскусіі і вызначыліся дванаццаць агульных накірункаў праграмы. Усе гэтыя дванаццаць "праграм", як у фокусе, сыходзяцца да адзінай мэты: распрацаваць на працягу двух гадоў навукова-метадалагічныя асновы развіцця беларускай культуры на сучасным этапе і падрыхтаваць прапановы і рэкамендацыі па ўдасканаленні культурных працэсаў.

**— Гэта ўсё прадугледжвае распрацоўку тэорыі культуры і асноўных момантаў стабілізацыі культурных працэсаў на які перыяд?**

— Да 2000 года. Стараемся зазірнуць і далей.

**— Давайце паспрабуем канкрэтызаваць некаторыя з 12 накірункаў.**

— Перш колькі словаў пра тое, чаму здзяйсненне праграмы "Культура" жыццёва важнае для сучаснай Беларусі.

Апошняе дзесяцігоддзе мы жывем у новых умовах. Мяняюцца і ўмовы жыцця культуры. Каб захаваць сваю ролю ў грамадстве і выканаць сваё прызначэнне, культура абавязана "перагнаць" эканоміку і змяніць свае прававыя асновы. Неабходна таксама змяніць формы дзяржаўнага кіравання сферай культуры.

**— Вы маеце на ўвазе яе карэкцыю і яе ахову?**

— Думаю, што пакуль яшчэ і кіраванне. Так, патрэбна сучасная рэалістычная канцэпцыя нацыянальнай культуры, метадалогія яе развіцця.

**— Вы лічыце гэта галоўнай задачай нашага сучаснага жыцця, калі і на хлеб не ўсе зарабляюць? Ці не лепей было б аддаць гэтыя 3 мільярды старым і хворым?**

— Аддалі. Праелі. Далей што? Трэба па-чалавечы перабудаваць наша жыццё, і тады хлеба хопіць усім. А пачынаць (даўно трэба было!) з перабудовы культуры. Толькі гэта дапаможа нам выйсці з эканамічнага крызісу і вырашыць сацыяльныя праблемы. Нам неабходна аднавіць маральнае здароўе грамадства.

**— А цяпер, Арнольд Яфімавіч, пра два-тры накірункі праграмы больш падрабязна, калі ласка. Я, да прыкладу, ва ўсіх сваіх камандзіроўках чуў пра тры "кіты", якія маглі б утрымаць становішча, калі б яны існавалі: грошы, кадры, захаванне помнікаў у шырокім сэнсе слова, гэта значыць гісторыі народа.**

— Пра грошы, як вы разумееце, размаўляць не будзем. Не я іх даю. Пра кадры — магу паведаміць, што пад нумарам першым у нашай праграме запісана: "Распрацоўваць канцэпцыю і праграму падрыхтоўкі кадраў культуры для работы ў новых сацыяльна-эканамічных умовах да 2000 года". І далей: "Праграма забяспечыць комплекснае вырашэнне праблем падрыхтоўкі кадраў для ўстаноў культуры ўсіх тыпаў".

**— Каму вы даверылі распрацоўку гэтай праграмы?**

— Беларускаму універсітэту культуры.

**— Назавіце, калі ласка, яшчэ колькі тэмаў.**

— Калі коратка, дык можна ўсе, у чытача будзе цэласнае ўспрыняцце праграмы і маштабу. Дык вось: праблемы народнай творчасці, прафесійнай адукацыі ў галіне мастацтва; інфармацыйная інфраструктура галіны; падрыхтоўка і выданне новай рэдакцыі "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі"; распрацоўка асноваў беларускай тэрміналогіі; развіццё прафесійнага мастацтва да 2005 года; комплексная праграма па ўсіх аспектах захавання помнікаў матэрыяльнай культуры; праблемы ўзаемадачыненняў культуры і рэлігіі Беларусі; распрацоўка сістэмы ўзаемадзеяння беларускай культуры з культурамі свету; эканамічнае, прававое і сацыяльнае забеспячэнне культуры і — стварэнне праекта сістэмы развіцця культуры РБ да 2005 года.

**— Каму даручаны распрацоўкі гэтых праблем? Беларускі універсітэт культуры вы ўжо назвалі.**

— Дададзім да яго наш інстытут, Беларускія акадэміі мастацтваў і музыкі, акадэмічныя інстытуты мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, эканомікі; Нацыянальны цэнтр імя Ф.Скарыны; Белдзяржуніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі і Міністэрства культуры РБ.

**— Так, паважныя ў вашага інстытута падначаленыя...**

— Акрамя гэтага, усе вядучыя культуролагі краіны — навукоўцы, дзеячы культуры і мастацтва, кіраўнікі творчых саюзаў, практыкі нашага міністэрства.

**— Арнольд Яфімавіч, давайце памарым на мове рынку: што мы будзем мець пры ўмове выканання праграмы "Культура"?**

— Нашто марыць? Вось раздзел у распрацаваным намі асноўным дакуменце па праграме "Асноўныя чакаемыя вынікі". У выніку выканання праграмы з'явіцца агульная канцэпцыя развіцця беларускай культуры; упершыню стануць явай мадэлі-апісанні беларускага мастацтва — і народнага, і прафесійнага; сацыялагічныя характарыстыкі розных сфер культуры і практычныя рэкамендацыі па пытаннях адукацыі, кадраў, пераходу на новыя эканамічныя прынцыпы дзейнасці ва ўмовах рынку; рэкамендацыі па фарміраванні прававых асноваў... Дарэчы, два тамы законаў і нарматыўных актаў наш інстытут ужо выдаў. На падыходзе трэці. Цікавую праблему мы зараз вывучаем — гэта таксама адзін з аспектаў праграмы — узаемадзеянне культуры і рэлігіі ў сучасным грамадстве.

**— Скажыце, дванаццаць пунктаў праграмы "Культура" "накрываюць" усю неабходную прастору, дзе патрэбная перабудова?**

— Пачнём з таго, што гэта не апошняя праграма: мы жывём, змяняемся і калісьці — ды хоць бы з 2000 — 2005 гадоў —неабходнай будзе значная карэкцыя цяперашніх самых празорлівых палажэнняў.

Што ж тычыцца цяперашняй праграмы, дык зразумела, што яна не ў стане ахапіць неахопнае. Абраны прыярытэтныя, самыя "вострыя" накірункі. Да прыкладу, у праграму не ўваходзяць многія кампаненты цэласнай культуры народа — адукацыя, навука, медыцына, права і шмат што іншае. Яна зарыентаваная перш за ўсё на тыя сферы культуры, якія "ходзяць" пад нашым міністэрствам. Відавочна, тое, пра што мы вядзем гаворку, —пашырэнне поля праграмы — справа будучыні. А пакуль неабходна тэрмінова стварыць аснову сучаснай канцэпцыі развіцця ўласна культуры — сферы аднайменнага міністэрства. Яно павінна ведаць, чым яно кіруе і як гэта сёння трэба рабіць.

**— Мяне чамусьці ўвесь час бянтэжыць вось гэты выраз: кіраванне культурай. Патлумачце мне, калі ласка, як можна кіраваць паэтам у працэсе напісання ім вершаў?**

— Кіраваць працэсамі, арганізацыяй, сістэмай, каб яна не перашкаджала паэтам і яго паплечнікам па мастацтве ствараць. Я так гэта разумею.

**— Дзякуй. Цяпер і я таксама.**

— У садружнасці з нашымі "субпадрадчыкамі" па праграме "Культура" мы пастараемся даць міністэрству, нашаму дзяржаўнаму замоўцы, тэарэтычна абгрунтаваную і практычна значную канцэпцыю існавання і развіцця культуры беларускага народа на бліжэйшыя пяць — дзесяць гадоў і на перспектыву. Праграма "Культура", пра якую мы з вамі размаўляем, гэта першы значны крок у выпрацоўцы такой канцэпцыі.

**— Ну што ж. Памагай вам Бог і вертыкаль у здзяйсненні гэтай мэты. І няхай першыя "культурныя" тры мільярды будуць не апошнімі. Газета "Культура" і яе чытачы з вамі.**

— Дзякуй.

**Матэрыялы з Беларускага інстытута праблем культуры падрыхтаваў Навум ЦЫПІС**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

---

раў, публіцыстыка, выданні фальклору (казкі, анекдоты, прыпеўкі, песні і інш.), літаратура на сексуальныя тэмы (самавыдавецкія дапаможнікі па тэхніцы коітусу, узаемаадносінах полаў, сексуальныя гараскопы і г.д.), эратычныя часопісы, газеты, бюлетэні, брашуры, прадукцыя малых друкаваных формаў (календары, плакаты, паштоўкі, фотавырабы, ігральныя карты, рэкламныя праспекты), кніжна-часопісная афарміцельская і ўпаковачная прадукцыя (мастацкія фотаздымкі, малюнкі, эстампы, этыкеткі для запалак, вокладкі, абгорткі і ўкладкі для відэа- і аўдыёкасет, кампакт-дыскаў, жавальнай гумкі, кантрацэптываў, вопраткі і г.д.). У прадукцыях друку і перыядычных выданнях эратычнага характару поўнасцю і сістэматычна эксплуатуюцца цікавасць да сексу; тэма, ідэя, інтрыга і прыёмы ўвасаблення звязаны ў іх з сексуальнымі фантазіямі і перажываннямі ў адносінах да людзей; чалавек і кожны прадмет у ёй прадстаўлены як аб'ект эратычных пачуццяў;

2.2. **літаратура па сексуальнай адукацыі і палавым выхаванні** — энцыклапедыі і энцыклапедычныя слоўнікі сексалагічнага напрамку, навуковыя манаграфіі па сексалогіі, сексапаталогіі, праблемах сям'і і шлюбу, культуралагічная сексалагічная літаратура (гісторыя сексу ў культурах свету, гісторыя прастытуцыі і г.д.), навуковыя вучэбныя дапаможнікі і метадычныя распрацоўкі па фізіялогіі і псіхалогіі палавога акта, па прафілактыцы СНІДу і венерычных захворванняў, навукова-папулярныя выданні, якія паслядоўна і мэтанакіравана вядуць сістэматычную работу па прафілактыцы СНІДу, палавым выхаванні насельніцтва, праблемах сям'і і шлюбу (газеты, часопісы, слоўнікі, брашуры, прадукцыя малых друкаваных формаў, лістоўкі, плакаты і г.д.);

2.3. **прадукцыя, якая змяшчае элементы эротыкі,** — масавыя перыядычныя выданні, што не адносяцца да эратычных, выкарыстоўваюць эратычныя кампаненты (фотаздымкі, калажы, малюнкі, карыкатуры, артыкулы, навелы, каментарыі спецыялістаў, вершы, анекдоты, рэклама, аб'явы аб продажы прадметаў эратычнага зместу, а таксама пра знаёмствы з мэтай інтымных сустрэч). Дадзеныя матэрыялы павінны насіць публіцыстычна-выкрывальны, гумарыстычна-сатырычны ці інфармацыйны характар і з'яўляцца эпізадычнымі (аб'ём такіх матэрыялаў у пэўным выданні не павінен перавышаць 5 % ад агульнага аб'ёму публікацый, матэрыялы медыцынскага і сексалагічнага накірунку, а таксама звязаныя з апісаннем злачынстваў павінны быць забяспечаны каментарыем спецыялістаў);

2.4. **прадукцыя, якая змяшчае элементы насілля і жорсткасці,** — друкаваная прадукцыя (творы мастацкай літаратуры і публіцыстыкі) і друкаваная прадукцыя сродкаў масавай інфармацыі (часопісы, газеты, брашуры і г.д.), прадукцыя малых друкаваных формаў, кніжна-часопісная афарміцельская і ўпаковачная прадукцыя, рэклама і аб'явы, змест якіх звязаны ў той ці іншай ступені з апісаннем насілля і жорсткасці, крымінальнай хронікі, розных формаў злачынстваў і тэхнікі іх здзяйснення, метадаў вырабу і выкарыстання як звычайнай зброі, так і прыстасаванняў для катавання, антыграмадскай дзейнасці, расавай і нацыянальнай выключнасці, дэтэктыўная літаратура і тая літаратура, у якой выкарыстоўваецца вульгарная і табуіраваная лексіка.

3. Пры падрыхтоўцы да выпуску і распаўсюджвання друкаваных выданняў любых відаў, якія маюць элементы эротыкі, насілля і жорсткасці, усе выдавецтвы і арганізацыі, незалежна ад формаў уласнасці, павінны ў абавязковым парадку мець заключэнне Рэспубліканскай экспертнай камісіі па прадухіленні прапаганды парнаграфіі, насілля і жорсткасці (у далейшым РЭК).

4. Рознічны продаж эратычнай друкаванай прадукцыі юрыдычнымі і фізічнымі асобамі дапускаецца толькі пры наяўнасці заключэння РЭК на права продажу і наменклатуру кожнага віду тавару, як правіла, у запячатаных непразрыстых упакоўках і ў спецыяльна прызначаных для гэтага памяшканнях (тыпу магазінаў "Інтым"), размяшчэнне якіх вызначаецца органамі мясцовай улады. Пры неабходнасці ў заключэнні агаворваюцца асобныя ўмовы продажу.

(Заканчэнне на стар. 4—5.)

# ВІЯЛАНЧЭЛЬ, "БЕЛАВІЯ" І МІНІСТР

У музычным жыцці нашай сталіцы — летні "штыль". У філармоніі зараз ідзе рамонт, распачаты ў ліпені, ён будзе доўжыцца і ў жніўні, а можа расцягнуцца і на верасень. Кіраўніцтва філармоніі заклапочана і спадзяецца завяршыць рамонт да верасня. Хваляванні кіраўнікоў можна зразумець: хутка распачнецца шасцідзесяты юбілейны сезон, якога з нецярплівасцю чакаюць мінчукі.

Аднак нават у час вымушанага летняга музычнага "штылю" ў нашай музычнай культуры — добрая вестка. Малады беларускі віяланчэліст, стыпендыят спецыяльнага прэзідэнцкага фонду па падтрымцы маладых талентаў Мікаэл Самсонаў стаў дыпламантам Міжнароднага музычнага конкурсу, што праходзіў у ліпені ў Злучаных Штатах Амерыкі ў штаце Мэрыленд.

Яшчэ зімой у ЗША была адпраўлена аудыёкасета з запісам ігры маладога віяланчэліста і неўзабаве прыйшоў адказ — запрашэнне на конкурс. Юрый Гільдзюк, які суправаджаў у паездцы маладога музыканта, падзяліўся з намі сваімі ўражаннямі: "Пабываць на такім форуме — вялікая адказнасць для маладога выканаўцы. І тое, што Мікаэл атрымаў там пачэсны дыплом, радуе і абнадзейвае. Асаблівая наша вялікая ўдзячнасць міністру культуры Аляксандру Сасноўскаму, без яго дапамогі гэтая паездка наогул была б немагчымай. Аляксандр Уладзіміравіч садзейнічаў нам праз кампанію "Белавія" ў перавозцы віяланчэлі Мікаэла ў штат Мэрыленд. А што гэта значыць — іграць менавіта на сваім, "родным" інструменце на такім адказным конкурсе, — ведае кожны музыкант..."

**Алена РЫГОРАВА**

# ПАРАДЫ ФЕМІДЫ

Калі гаварыць пра выданні апошніх гадоў, якія не толькі цікавыя, але найперш патрэбныя і карысныя для нашага чытача, то нельга абысці ўвагай экспрэс-бюлетэнь "Нарматыўна-прававыя акты Рэспублікі Беларусь у сферы культуры", які выдае Міністэрства культуры Беларусі разам з Беларускім інстытутам праблем культуры пры садзеянні Навукова-даследчага інстытута праблем крыміналістыкі і крыміналогіі, а таксама Рэспубліканскага цэнтра прававой інфармацыі.

Бюлетэнь мае два раздзелы. Першы складаецца з пераліку ўсіх нарматыўна-прававых актаў, прынятых Вярхоўным Саветам, Прэзідэнтам, Кабінетам Міністраў, Нацыянальным банкам, Канстытуцыйным Судом, Вярхоўным Судом, Вышэйшым Гаспадарчым Судом, а таксама нарматыўных актаў усіх устаноў, што прайшлі дзяржаўную рэгістрацыю ў Міністэрстве юстыцыі. Другі раздзел выдання змяшчае тэксты найбольш актуальных нарматыўна-прававых актаў, што ўвайшлі ў першы раздзел: гаспадарчае, падатковае, банкаўскае і мытнае заканадаўства.

Дастаткова перагарнуць старонкі выдання — выпуск другі за 1997 год, каб пераканацца, што бюлетэнь мае шмат карыснай інфармацыі акурат для творчых людзей. Аўтарскае права — даволі часты прадмет спрэчак у творчым асяроддзі, якія часам даходзяць нават да суда — асноўная тэма другога выпуску бюлетэня. Прынамсі ўзнікненне аўтарскага права, прэзумпцыя аўтарства, сааўтарства, аўтарскія правы перакладчыкаў, абарона аўтарскага права і сумежных правоў — вось далёка не поўны пералік пытанняў, адказы на якія вы знойдзеце ў гэтым выданні.

Перагарніце ж старонкі бюлетэня і вы пераканаецеся, што ён вам проста неабходны!

**А.Р.**

*Нядаўна ў Рэчыцы быў адкрыты помнік выбітнаму гісторыку Мітрафану Доўнар-Запольскаму.*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

# "СВЯТЛО ДАЛЁКАЙ ЗОРКІ"...

Сама назва кнігі Уладзіміра Касько, якая толькі што выпушчана выдавецтвам "Універсітэцкае", скіроўвае ўвагу чытачоў да нашай спадчыны. Імя Аляксандра Казіміравіча Сержпутоўскага не тое каб забытае, але і не дужа вядомае. Ва ўступе аўтар нагадвае, што гэта была асоба выбітная, якая пакінула прыкметны след у гісторыі вывучэння народнай творчасці беларусаў.

У кнізе на падставе канкрэтных фактаў (прац вучонага), архіўных дакументаў, матэрыялаў тагачаснага друку паказана, як на працягу дзесяцігоддзяў нястомны даследчык, вандроўнік, фалькларыст, этнограф, мовазнавец А.К.Сержпутоўскі (яго актыўная дзейнасць прыпадае на канец мінулага і 20 — 30-я гг. цяперашняга стагоддзяў) адкрываў у беларускім народзе, у забытых светам палешуках своеасаблівы погляд на жыццё, філасофскую мудрасць, мастацкі талент. І фігура беларуса, які быў відным расійскім вучоным, такім чынам уключаецца ў лік шукальнікаў апірышча для духоўнасці грамадства. Аўтар кнігі даводзіць, што А.К.Сержпутоўскі сваімі працамі, стаўленнем да свайго народа "ўпісаў залаты радок у справу нацыянальнага Адраджэння".

Кніга "Святло далёкай зоркі" цікавая менавіта асобай героя — шматграннай, таленавітай, мэтанакіраванай. Нарадзіўшыся ў 1864 годзе на Случчыне, скончыўшы ў 1884 годзе Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, Аляксандр Сержпутоўскі амаль дзесяць гадоў настаўнічаў у Слуцкім і Мазырскім паветах, працаваў у Мінскім аддзяленні пазямельнага банка, у паштова-тэлеграфным агенцтве. Гэта дало яму "жыццёвы матэрыял" для справы, якая потым стала сэнсам жыцця — вывучэння этнаграфіі і фальклору беларускіх правінцый. Грунтоўныя веды, метадалогію даследавання А.К.Сержпутоўскі набыў у археалагічным інстытуце, этнаграфічным аддзеле Рускага музея ў Пецярбурзе. Там ён доўгі час працаваў, там выдаў свае зборнікі "Нарысы Беларусі", "Земляробчыя прылады Беларускага Палесся", "Казкі і апавяданні беларусаў", даследаванне дыялектаў у беларускай мове, асаблівасцяў дзіцячай мовы і іншыя. Працы яго былі высока ацэнены на радзіме: у 1925 г. А.К.Сержпутоўскі атрымаў званне правадзейнага члена Інбелкульта АН БССР. Пасля смерці вучонага ў 1940 г. засталася яго багатая рукапісная спадчына — сорак пяць навуковых прац, сярод якіх і фундаментальныя. Па сведчаннях У.Касько, сорак шостую працу А.К.Сержпутоўскі меў намер прысвяціць вынікам беларускай фалькларыстыкі за пяцьдзесят гадоў.

З чатырнаццаці раздзелаў кнігі "Святло далёкай зоркі" чытач даведаецца пра многія падрабязнасці жыцця і побыту правінцый, пагутарыць з палешукамі на іх мове, разам з імі пажурыцца і пасмяецца, адчуе пах зямлі, плынь беларускіх рэк, перажыве нязбыўную мару аб лепшай долі. А.К.Сержпутоўскі на працягу пяці дзесяцігоддзяў (1890 — 1940) вывучаў быт і культуру не толькі беларусаў, але і рускіх, украінцаў, палякаў, літоўцаў, татар, мардвы, народаў Каўказа. Аб усім гэтым мы знаходзім у кнізе прыклады і спасылкі на архіўныя дакументы. А гэта доказ таго, што сам аўтар навукова-публіцыстычнага нарыса, можна сказаць, "перавярнуў гару матэрылаў". Ён не абыходзіць і тое, што было да яго напісана аб Сержпутоўскім, спасылаецца на працы беларускіх вучоных В.Бандарчыка, А.Фядосіка, Л. Барага, М.Грынблата і іншых. Дзе-нідзе ўдакладняе іх назіранні. Аднак у палеміку з імі не ўступае. Галоўны яго клопат — даць чытачу як мага больш звестак. Лічу, што гэта апраўдана: мы за апошні час столькі начыталіся дыскусій, што выпрацаваўся пэўны імунітэт супраць іх, больш верым фактам, чым іх інтэрпрэтатарам.

Змест новай кнігі значна ўзбагачае "Дадатак", у які ўключаны многія казкі, прымаўкі, песні, анекдоты, кпіны, запісаныя А.К.Сержпутоўскім. Чытаючы іх, перажываеш самыя розныя пачуцці. І пераконваешся, што выйшла ў свет выданне, вартае ўвагі не толькі навукоўцаў, але і больш шырокага кола чытачоў.

**Ефрасіння БОНДАРАВА,**
**доктар**
**філалагічных навук**

# ПАЛАЖЭННЕ

## *аб парадку публічнай дэманстрацыі кіна-аўдыёвізуальных твораў, выпуску друкаванай прадукцыі эратычнага характару, а таксама прадукцыі сексуальнага прызначэння, іх распаўсюджвання і рэкламавання фізічнымі і юрыдычнымі асобамі.*

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1—3.)*

5. **Забараняецца:**

5.1. рэалізацыя эратычнай прадукцыі друку і друкаванай прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі, якія не зарэгістраваны ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі";

5.2. рэалізацыя ў свабодным рознічным продажы друкаванай прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі, матэрыялы якія смакуюць сцэны насілля і жорсткасці, а таксама падрабязна расказваюць пра тэхналогію здзяйснення злачынстваў, прапагандуюць расавую і нацыянальную выключнасць, змяшчаюць адкрытыя апісанні тэхнікі коітуса і любоўных гульняў (акрамя літаратуры па сексуальнай адукацыі і палавым выхаванні), выкарыстоўваюць вульгарную і табуіраваную лексіку, якая абражае гонар і годнасць грамадзян, апісваюць станоўчыя эмоцыі людзей ад ужывання наркотыкаў у любых відах, змяшчаюць аб'явы людзей аб інтымных сустрэчах за ўзнагароду (акрамя шлюбных) і дэвіянтных формах інтымных адносін ці продажы прадметаў і прадукцыі эратычнага ці парнаграфічнага зместу, таксама як і іх рэкламу (па-за канкрэтнымі пунктамі рэалізацыі прадукцыі эратычнага зместу), так як падобныя друкаваныя матэрыялы не ўзгадняюцца з існуючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

6. У выпадку парушэнняў гэтага Палажэння, а таксама пры адсутнасці выдавецкага права або выхадных звестак у друкаванай прадукцыі эратычнага характару дадзеная прадукцыя знімаецца з продажу прадстаўнікамі ўпаўнаважаных на гэта дзяржаўных органаў ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

### *Прадукцыя электронных сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды*

7. Да прадукцыі электронных сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды адносяцца:

7.1. **кіна-відэапрадукцыя** (эратычныя кіна- і відэафільмы, відэапраграмы, тэлевізійныя перадачы (дзяржаўныя і камерцыйныя каналы), рэклама, відэакасеты з рэкламай прадукцыі сексуальнага прызначэння, кіна- і відэакасеты з фільмамі жахаў, элементамі эротыкі, насілля і жорсткасці);

7.2. **аўдыёкасетная і радыёпрадукцыя** (касеты, кампакт-дыскі, праграмы эратычнай праблематыкі, праграмы эратычнай музыкі, "блатных" песень, анекдотаў);

7.3. **камп'ютэрныя эратычныя праграмы** (кампакт-дыскі і дыскеты з сексуальнымі энцыклапедыямі, з наборам эратычных фотаздымкаў і малюнкаў, з сексуальнымі гульнямі і апавяданнямі, зборнікі эратычных кліпаў і мультфільмаў), а таксама тыя, якія ўтрымліваюць элементы насілля і жорсткасці ў камп'ютэрных гульнях;

7.4. **прадукцыя інфармацыйна-пазнавальнага зместу і прапаганды** (наглядная агітацыя і рэклама, навукова-папулярныя лекцыі, курсы па гісторыі эратычнага мастацтва ў навучальных установах, пазнавальныя праграмы сексалагічных цэнтраў, асацыяцый, клубаў і таварыстваў па культуры інтымных адносін).

8. Для ўпарадкавання распаўсюджвання, рэкламавання і публічнай дэманстрацыі дадзенага віду прадукцыі ўстанаўліваецца наступны парадак:

8.1. кінатэатры, відэасалоны, відэазалы, кінавідэаўстаноўкі, незалежна ад іх ведамаснай прыналежнасці, атрымліваюць права публічнай дэманстрацыі на тэрыторыі Беларусі кінавідэатвораў толькі пры наяўнасці экспертнага заключэння РЭК, дазвольнага пасведчання на права заняцця кінавідэадзейнасцю і Дзяржаўнага рэгістрацыйнага пасведчання (ДРП) на ўсе кінавідэатворы, выдадзенае Дзяржаўным рэгістрам кінавідэафільмаў і кінавідэапраграм пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь;

8.2. рэспубліканскае, абласное, гарадское тэлебачанне, у тым ліку камерцыйныя каналы, якія дзейнічаюць пры іх, а таксама кабельнае і спадарожнікавае тэлебачанне, як правіла, забяспечваюць паказ тых кінавідэафільмаў, якія маюць заключэнне РЭК, ДРП і класіфікацыйнае пасведчанне;

8.3. уся кінавідэапрадукцыя эратычнага характару з элементамі эротыкі, насілля і жорсткасці павінна быць прадстаўлена на экспертызу РЭК: публічная дэманстрацыя кінавідэафільмаў з элементамі эратычнага характару з міжнародным індэксам "х" (секс) і рэспубліканскай індэксацыяй *** (не дапускаюцца асобы да 16 гадоў), **** (не дапускаюцца асобы да 18 гадоў) можа ажыццяўляцца толькі пры наяўнасці спецыяльнага дазволу РЭК;

8.4. дэманстрацыю кінавідэаматэрыялаў, якія маюць індэкс ****, рэкамендуецца ажыццяўляць у спецыяльных кінатэатрах ці кінавідэазалах невялікай умяшчальнасці, максімальна аддаленых ад дзіцячых і школьных устаноў; умовы паказу кінавідэапрадукцыі з індэксам "х" і *** вызначаюцца рашэннем РЭК у кожным асобным выпадку;

8.5. распаўсюджванне на тэрыторыі рэспублікі выпускаў спецыялізаваных радыё- і тэлепраграм эратычнага характару без кадзіравання сігналу дапускаецца толькі з 00 да 4 гадзін па мясцовым часе, калі іншае не ўстаноўлена органамі мясцовай улады;

8.6. адказнасць за навуковы, мастацкі і маральны ўзровень папулярных лекцый, курсаў па гісторыі эратычнага мастацтва ў навучальных установах, пазнавальных праграм сексалагічных цэнтраў і асацыяцый нясуць установы, таварыствы і арганізацыі, якія наладжваюць іх;

8.7. продаж ці пракат насельніцтву прадукцыі электронных сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды эратычнага зместу, а таксама тых, якія ўтрымліваюць элементы эротыкі, насілля і жорсткасці, дазваляецца толькі пры наяўнасці экспертнага заключэння РЭК на кожную назву такой прадукцыі і Дзяржаўнага класіфікацыйнага пасведчання (для кінавідэапрадукцыі). Распаўсюджванне аўдыёкасет з запісамі эратычнага зместу можа ажыццяўляцца толькі пры наяўнасці заключэння РЭК і ліцэнзій, што выдаюцца Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

### *Прадукцыя тэатральна-відовішчнага і выяўленчага мастацтва*

9. Да твораў дадзенага напрамку адносяцца:

9.1. спектаклі тэатраў (драматычных, музычных, балетных, лялек);

9.2. шоу тэатраў мод; праграмы эстрадных канцэртаў; цыркавых прадстаўленняў; харэаграфічных і эратчных шоу (стрыптыз жаночы і мужчынскі) рэстаранаў, бараў і вар'етэ (незалежна ад формы ўласнасці); вулічных прадстаўленняў і маскарадаў; конкурсы прыгажосці і г.д.;

9.3. выстаўкі, вернісажы, мастацкія салоны; прэзентацыі, гандлёвыя кірмашы (змест і наглядная агітацыя);

9.4. творы жывапісу, графікі, скульптуры, аб'ёмнай пластыкі, афарміцельскага мастацтва; дызайнерская прадукцыя, цацкі; сувеніры, прадметы народных промыслаў і саматужнай вытворчасці.

10. Адказнасць за скажэнне і вульгарную трактоўку твораў эратычнага мастацтва ўскладаецца на мастацкія саветы творчых саюзаў і асацыяцый, тэатральна-канцэртных і турыстычных арганізацый; выстаўкамы, мастацкія саветы і камісіі гандлёва-закупачных і турыстычных прадпрыемстваў, а таксама ўстановы грамадскага адпачынку і харчавання ўсіх формаў уласнасці.

11. Праграмы з элементамі эратычнага характару як мясцовых, так і гастрольных творчых калектываў, шоу устаноў грамадскага адпачынку і харчавання ўсіх формаў уласнасці ў абавязковым парадку павінны прадстаўляцца на прагляд РЭК і мець адпа-

0.15—1.10 Адамаў яблык.

**Санкт-Пецярбург**

12.30, 15.30, 18.30, 20.25 Інфарм ТБ.
12.45 "Гісторыя кахання". Серыял.
13.35 Тэрмін адказу — сёння.
14.05 Парады садаводам.
14.25 Парадоксы гісторыі. "Падзенне Арловых".
14.55 Зорны розыгрыш.
15.40, 22.20 Тэлеслужба бяспекі.
15.55 "Свядомасць забойцы". Маст. фільм (ЗША, Вялікабрытанія). 10-я серыя.
16.45 Неўская вясёлка.
17.00 Тры колы, фаліянт і...
17.25 Тэлемагазін.
18.45 Спорт.
18.55 "Крот і ракета". Мультфільм.
19.10 "Гісторыя кахання". Серыял.
20.00 Тэлестанцыя "Мая Расія". Праваслаўная місія.
20.30 Паэзія.
20.40 Тэлестанцыя "Мая Расія".
21.00 Слова — дэпутатам.
21.30—22.40 "Свядомасць забойцы". Маст. фільм (ЗША, Вялікабрытанія). 10-я серыя.

**НТБ**

8.15 Мужчынскі серыял. "Гангстэрскія хронікі: амерыканская гісторыя" (ЗША). 1-я серыя.
9.15, 17.30 Праграма для дзяцей "Вуліца Сезам".
9.45 Навіны кіно.
10.00 Жаночы серыял. "Любоўная запіска" (Францыя).
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.20 Вуснамі дзіцяці.
11.50 Дзецям. Мультфільм "Прыгоды капітана Урунгеля". 9-я серыя.
12.00 Дак. серыял "Імкненне да нябёсаў: гісторыя авіяцыі" (Вябікабрытанія — ЗША).
13.20 Свет кіно. "Месца злачынства" (Германія). Фільм 5-ы "Нябожчык у фургоне".
15.10 Кінатэатр юнага гледача. Маст. фільм "Блакітнае дрэва".
16.00 Дыстанцыя 60.
17.00 Крымінал.
17.05 Я — целаахоўнік.
17.15 У запас.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Свет кіно. Паліцэйскі баявік "Серпіко" (ЗША).
21.45 Фестываль міні-серыялаў. "Вампіры горадка Салемс Лот" (ЗША). Заключная серыя.
22.40 Часінка.
23.10 Свет кіно. Крымінальная меладрама "Зорка-80: Міс жніўня". (ЗША).

**ТБ-6 Масква**

6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45 "Шэсць навін".
6.10 Дыск-канал.
8.50 Гумарыстычная праграма "Назло рэкордам!"
9.15 Серыял "Сям'я Кэмпбелаў".
10.15 Аптэка.
10.30 Праграма А. Паліткоўскага "Кіславодскі тупік".
11.05 Маст. фільм "Трыццаць дзевяць ступеняў" (Вялікабрытанія).
12.45 Тэлемагазін "Дзякуй за пакупку!"
13.10 Мультфільмы: "Альтэрнатыва", "Зубны боль", "Асцярожна, нервы!"
13.40 Тэлемагазін "Дзякуй за пакупку!"
14.00 Гісторыя дзяржавы Расійскай. "Жывыя і мёртвыя", 1-я серыя.
16.05 Серыял для падлеткаў "Фліпер".
16.35 Дыск-канал.
17.10 Аптэка.
17.20 Дарожны патруль.
17.35 Дыск-канал "Мелодыі кахання".
19.40 "Ералаш".
19.05 Ток-шоу "Зрабі крок".
20.15 А. Міронаў у фільме "Мой малодшы брат".
22.15 Тыя Хто.
23.00 Дарожны патруль.
23.15 Дыск-канал.
0.00 "Знак якасці".
0.20 Дыск-канал "Усё гэта рок-н-рол".

**8-ы канал**

18.00 Праграма Кенета Копланда.
18.30 Паўторны экран. Маст. фільм "Споведзь утрыманкі".
20.00 Мульт-планета.
20.30 Серыял "Горац-3".
21.30 Муз-парад.
22.00 На экране фантастыка. Маст. фільм "Дванаццаць малпаў".

## Пятніца, 15 жніўня

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Навіны.
8.10 "Тэлебарометр". Прагноз надвор'я.
8.20 "След лёсу". Дак. фільм Беларускага тэлебачання.
8.55 Бархатны сезон. Музычна-забаўляльная праграма.
9.25 "Пітэр Пэн". Тэлевізійны маст. фільм ("Беларусьфільм"). 1-я і 2-я серыі.
11.45 "Кадфаэл". Тэлесерыял (Вялікабрытанія). 11-я серыя.
12.25 "Мне снілася музыка..." Фільм-канцэрт.
13.00 Навіны.
15.00 Навіны.
15.15 "Аднойчы ў пустыні", "Сунічны дождж". Мультфільмы.
15.30 Творцы. Кінарэжысёр Леанід Мартынюк.
16.00 Сядзіба. Праграма для дачнікаў.
16.30 "Творчыя крыніцы". Тэленарыс аб культурным цэнтры на Мазыршчыне.
17.00 Музычны антракт.
17.10 "Апошнія чараўнікі", "Новы Аладзін", "Дым каромыслам". Мультфільмы.
17.45 Эканамікст.
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.20 "Кадфаэл". Тэлесерыял (Вялікабрытанія). 11-я серыя.
19.05 "Музычная абойма". Беларускі хіт-парад.
19.10 "Простыя аповяды". Тэленарыс пра шматгадзетную сям'ю Шчуро.
19.30 "Музыка гадзіннікаў". Дак. фільм.
19.45 "У джазе толькі дзяўчаты". Забаўляльная праграма.
20.15 Летні дзень вёскі.
20.25 Музычны антракт.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 "Цэнтэр" прадстаўляе: "Гандзі". Маст. фільм (Англія—Індыя). 1-я серыя. Уступнае слова Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Індыі ў Рэспубліцы Беларусь Мадху Бхадуры.
23.35 Навіны.
23.45 Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.

**ГРТ**

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.25 Навіны.
8.15 "Дзяўчына па імені Лёс".
9.10 Мая сям'я: кінутая жанчына.
9.45 Пакуль усе дома.
10.20 Хатняя бібліятэка.
10.30 Грай, гармонік, любы!
14.20 Героі Кіплінга ў прыгодніцкім фільме "Кім".
16.25 Музычная праграма "50х50"
17.20 "Дзяўчына па імені Лёс".
18.10 Надвор'е.
18.15 Чалавек і закон.
18.45 Поле цудаў.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 Апошняе папярэджанне ў дэтэктыўным серыяле "Строга на поўдзень".
21.40 Погляд.
22.35 Прыгодніцкі фільм "Ваенныя гульні".

**Расія**

7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
8.00 Праваслаўны каляндар.
8.05 "Вой, куды мы заляцелі", "Калі пясок узыдзе..." Мультфільмы.
8.35 "Аншлаг" прадстаўляе.
9.10—10.15 "Санта-Барбара". Серыял.
13.25 Момант ісціны.
13.50 "Чырвоная кніга". Экалагічная экспедыцыя РТР.
14.05 Царская ложа.
14.45 Залатая карта Расіі.
15.10 Тэлемагазін "Квантум".
15.20 "Ці-маркет" прадстаўляе.
15.25 "Брадвей нашага юнацтва". Дак. серыял.
16.20 Там-там навіны.
16.30 Лукамор'е.
16.55 Паглядзі на сябе.
17.05 "Лёшкаў луг". Дак. фільм. Частка 1-я.
17.40, 1.10 Тавары — поштай.
17.45 Прадстаўляе "Праект-арсенал".
18.00 "Санта-Барбара". Серыял.
19.35 Добры вечар.
20.20 "Магія Дэвіда Коперфілда". Фільм 5-ы.
21.15 Чэмпіянат Еўропы па водных відах спорту.
22.35 Рускі бой. Кубак выкліку.
23.30 Камерцыйны сюжэт.
23.35 "Міс Масква-97".
0.30—1.20 Начны экспрэс.

**Санкт-Пецярбург**

12.30, 15.30, 18.30, 20.25 Інфарм ТБ.
12.45 "Гісторыя кахання". Серыял.
13.35 Тэрмін адказу — сёння.
14.05 Парады садаводам.
14.25 Храм. "Моцныя словы".
14.55 Ток-шоу "Наўздагад". Васіль Ліванаў.
15.40, 22.20 Тэлеслужба бяспекі.
15.55 Да 50-годдзя Незалежнасці Індыі.
16.45 Казка за казкай: "Верны блазан".
17.25 Тэлемагазін.
18.45 Спорт.
19.00 "Крот і каляды". Мультфільм.
19.10 "Гісторыя кахання". Серыял.
20.00 Тэлестанцыя "Мая Расія".
20.30 Гульня "Лато-бінга".
21.30—22.41 "Тэлкампакт". Музычнае шоу.

**НТБ**

8.15 Мужчынскі серыял. "Гангстэрскія хронікі: амерыканская гісторыя" (ЗША).
9.15 Праграма для дзяцей "Вуліца Сезам".
9.45 Навіны кіно.
10.00 Жаночы серыял "Любоўная запіска" (Францыя).
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.20 Маскі-шоу: выбранае.
11.50 Мультфільм "Прыгоды капітана Урунгеля". 10-я серыя.
12.00 Дак. серыял. "Імкненне да нябёсаў: гісторыя авіяцыі".
13.20 Свет кіно. Дэтэктыў "Месца злачынства". Заключны фільм "Маньякі".
15.10 Кінатэатр юнага гледача. Маст. фільм "Блакітнае дрэва".
16.00 Дыстанцыя 60.
17.00 Крымінал.
17.05 Я — целаахоўнік.
17.15 У запас.
17.30 Футбольны клуб.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Наша старое кіно. Маст. фільм "Беражыся аўтамабіля".
20.40 "Алё, Фіма!"
21.45 Фестываль міні-серыялаў. Баявік "Палкоўнік Грушко супраць пецярбургскай мафіі" (Вялікабрытанія). 1-я серыя.
22.40 Часінка.
23.10 Свет кіно. Фільм жахаў "Паўстаўшыя з пекла-4" (ЗША).

**ТБ-6 Масква**

6.00, 8.00, 13.50, 20.35, 22.45 "Шэсць навін".
6.10 Дыск-канал.
7.25 Тэлемагазін "Дзякуй за пакупку!"
7.45 Аптэка.
8.10 Тэлемагазін "Дзякуй за пакупку!"
8.30 Ток-шоу "Маё кіно" з Віктарам Мярэжкам.
9.20 Дэтэктыў "Шэрлак Холмс і сакрэтная зброя" (ЗША).
10.40 Аптэка.
11.00 Трылер "Па-за законам". (ЗША—Канада).
12.25 "Знак якасці".
12.40 Тэлемагазін "Дзякуй за пакупку!"
13.05 Мультфільмы: "Гаўрош", "Зялёная казка".
13.40 Тэлемагазін "Дзякуй за пакупку!"
14.00 Гісторыя дзяржавы Расійскай. "Жывыя і мёртвыя". 2-я серыя.
15.45 Тэлемагазін "Дзякуй за пакупку!"
16.05 Серыял для падлеткаў "Фліпер".
16.35 Дыск-канал.
17.00 Аптэка.
17.10 Дарожны патруль.
17.20 Тэлемагазін.
17.25 "Ералаш".
17.35 Дыск-канал "Усё гэта рок-н-рол".
18.40 "Знак якасці".
18.55 А. Міронаў у фільме "Назначэнне".
20.50 Следства вядуць... Маст. фільм "Знікненне".
23.00 Дарожны патруль.
23.15 Дыск-канал.
0.00 "Знак якасці".
0.20 Дыск-канал "Музыку не спыніць!" (МСМ).

**8-ы канал**

18.00 Сёння з Мерылін Хікі.
18.30 Тэлесерыял "Доктар Фауст".
19.30 Аэробіка "Новы Эдэм".
20.00 Мульт-планета.
20.30 Спорт-action. (Формула-1. Адзінаборства).
21.30 Муз-парад.
22.00 Джэймс Бонд — агент 007. Маст. фільм "Спалохаць насмерць".

## Субота, 16 жніўня

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Навіны.
8.15 Здароўе. Жыццё пасля інфаркту міякарда.
8.45 "Прыгоды Чыпа". Мультфільм.
9.05 "Пад вуглом 23,5 градуса". Забаўляльна-пазнавальная праграма.
9.30 Урокі Н.Наважылавай.
10.00 Рэгіён. Перадача з Брэста.
10.30 "Лёс мой і надзея". Сацыяльная рэабілітацыя інвалідаў.
11.00 Люстэрка. Праграма для жанчын.
11.25 "Усё нармальна, мама!" Забаўляльная праграма.
12.00 Чацвёртае вымярэнне. Навукова-папулярная праграма.
12.20 Шматгалоссе. "Маем гонар". Мастак Іван Чарнякевіч.
12.50 "Музычная абойма". Вынікі тыдня.
13.05 "Белае возера". Маст. фільм ("Беларусьфільм").
14.20 Канцэртны сезон. "Каўнас Біг-Бэнд".
15.00 Навіны.
15.15 Тэлеспорт.
16.00 "Макаёнка, 9". Інфармацыйна-аналітычная праграма па пісьмах гледачоў.
16.20 Запрашаем на вячоркі. Абрад "Зліўкі" ў вёсцы Верасніца Жыткавіцкага раёна і ансамбль "Сваты".
17.00 Творчае маладзёжнае аб'яднанне "Крок". "Рыкзыка-версія". Тэлегульня.
17.25 Беларускі дом. Мастацка-публіцыстычная праграма.
17.55 Галерэя. Доктар педагагічных навук Ларыса Глазырына.
18.30 Ігар Старыгін і Леанід Невядомскі ў маст. фільме "Чырвоныя дыпкур'еры".
20.10 Тэлеанонс.
20.15 Гісторыя кахання. Сям'я акцёраў Мішанчукоў.
20.40 Калыхнка.
21.00 Панарама.
21.45 Тэленавігатар.
22.05 "Гандзі". Маст. фільм (Англія—Індыя). 2-я серыя.
23.40 Відзьма-нявідзьма.
0.40 Трэці тайм.

**ГРТ**

7.00 Міхаіл Пугаўкін і Вера Васільева ў фільме "Загадана ўзяць жывым".
8.25 "Дождж". Мультфільм.
8.40 Лота-Мільён.
8.45 Хатняя бібліятэка.
9.00, 14.00, 16.45 Навіны.
9.10 Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл.
9.30 Ранішняя пошта.
10.05 Каламбур. Гумарыстычны часопіс.
10.35 Смак.
10.55 Вяртанне Траццякоўкі. Гісторыя аднаго шэдэўра.
11.20 "У мёртвай пятлі". Маст. фільм.
12.45 Оперны турнір у палацы княгіні Шахоўскай.
13.25 Відавочнае — неверагоднае.
14.20 "Саюзмультфільм" прадстаўляе... "Казка пра цара Салтана".
15.20 У свеце жывёл.
15.55 Футбол. Чэмпіянат Расіі. "Дынама" (Масква).— "Лакаматыў" (Масква).
18.00 Леанід Якубовіч у тэлегульні "Кола гісторыі".
18.40 Надвор'е.
18.50 "Строга на поўдзень".
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.55 Андрэй Міронаў у камедыі "Чалавек з бульвара Капуцынаў".
22.50 Калекцыя Першага канала. Фільм Інгмара Бергмана "Шэпты і крыкі".

**Расія**

7.00 Ранішні экспрэс.
7.55 Тавары — поштай.
8.05 Клуб "Адрэналін".
8.15 "Мемарына". Тэлегульня.
8.45 Добрай раніцы, краіна!
9.25 Чэмпіянат Еўропы па водных відах спорту. Воднае пола.
10.00 Весткі ў адзінаццаць.
10.15 Веснік спажыўца.
10.40 У свеце жывёл.
11.10 "Ананімныя субяседнікі".
11.40 Двайны партрэт.
12.10 Бясконцае падарожжа.
12.45 "Праект-арсенал" прадстаўляе.
13.00 Весткі пра...
13.20 "Арабела вяртаецца, ці Румбурак — кароль краіны казак". Маст. фільм (Чэхія). 3-я і 4-я часткі.
14.20 Песня Расіі.
15.15 Тэлескоп.
15.55 Чэмпіянат Еўропы па водных відх спорту.
19.00 Весткі.
19.35 Сам сабе рэжысёр.
20.05 Чэмпіянат Еўропы па водных відах спорту.
20.30 "Бацькі і дзяды". Маст. фільм.
22.05 Му-мукі творчасці.
22.25 Момант ісціны.
23.20 "Уратуй і захавай".
23.35 Рэпарцёр.
23.50—0.43 Праграма "А".

**Санкт-Пецярбург**

9.30, 12.30, 15.30, 18.30, 21.30 Інфарм ТБ.
9.45 Хутарок.
10.15 Гонар маю.
10.45 "Індаба". Тэлесерыял.
11.10 "Паляўнічыя". Дак. серыял аб прыродзе (ЗША). 7-я серыя "Іколы і кіпцюры".
12.00 Ток-шоу "Наўздагад". Таццяна Васільева.
12.45 Страсці-мардасці.
13.05 "Песня першага кахання". Маст. фільм.
14.45 Гістарычныя расследаванні.
15.45 Спартыўны агляд.
16.05 Увесь гэты цырк.
16.25 Сакрэтная размова. Перадача 2-я.
16.50 Тэлестанцыя "Мая Расія". "Тэатральная правінцыя?"
17.25 Тэлемагазін.
19.00 "Крот і тэлевізар". Мультфільм.
19.10 "Калыханка". Прэм'ера маст. фільма (Грузія, Францыя).
20.30 Слова — дэпутатам.
20.45 Блеф-клуб.
21.45 "Парад парадаў" прадстаўляе майстра светлавой рэжысуры Ігара Юнга.
22.15—0.28 "Наведвальнік музея". Маст. фільм.

**НТБ**

7.00 Сёння раніцай.
7.15 Маст. фільм "Багатая нявеста".
9.00 Мультсерыял "Незвычайныя прыгоды доктара Дуліттла".
9.30 Тэлегульня "Зразумей мяне".
10.00 Свет прыгод і фантастыкі. Маст. фільм "Уладар джунгляў" (Германія).
10.30 Мультфільм.
10.45 Ад "Вінта".
11.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.15 Фестываль індыйскага кіно. Крымінальная меладрама "Брудная здзелка".
13.30 Працей простага.
14.10 Жывыя навіны.
14.30 "Панарама" з Усеваладам Аўчыннікавым.
15.20 Дак. серыял "XX век у войнах". Фільм 7-ы "Канец першай сусветнай" (ЗША).
16.20 Серыял па выхадных. "Савана" (ЗША). 10-я серыя.
17.15 Навіны дня з Натальляй Антонавай.
17.30 "Дог-шоу. Я і мой сабака".
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.30 Прэмія "Оскар". "Джэймс Бонд — агент 007". Фільм 4-ы "Аперацыя "Шаравая маланка" (Вялікабрытанія).
20.45 "Лялькі".
21.45 Серыял па выхадных. "Байкі са склепа".
22.35 Суботняе шоу Мікалая Фаменкі "Імперыя страсці".
23.15 "Футбольны клуб" прадстаўляе чэмапіянат Расіі. 23-і тур.
0.05 Вялікі рынг: зоркі прафесіянальнага спорту.
0.30 Начны канал. "Плейбой-шоу".

**ТБ-6 Масква**

6.00, 7.00, 22.20 "Шэсць навін".
6.10 Дыск-канал (МСМ).
7.35 Мультфільмы: "Цёплы хлеб", "Цяў і Гаў", "Парасолька становіцца дружыннікам".
8.05 "Цэнтэр-Прыз".
8.15 Дзіцячы сеанс. "Зорнае лета".
9.30 Тэлемагазін "Дзякуй за пакупку!"
9.55 "Ералаш".
10.20 Серыял аб прыродзе.
11.25 Тэлемагазін "Дзякуй за пакупку!"
11.55 Дак. серыял "Тэорыя змоў": "Прынцэса Дзі".
12.55 Дыск-канал для дзяцей.
13.50 Ток-шоу "Я сама". "Шлях да сэрца ляжыць праз страўнік".
14.50 Ток-шоу "Прафесія": "Разведчык".
15.45 Дак. серыял "Вялікія каштоўнасці свету": "Фарбы Раджастана", 1-я частка.
16.15 "Не знікай". Спецыяльная праграма да гадавіны смерці Элвіса Прэслі.
17.15 Шоу Бені Хіла.
17.50 Дыск-канал "Музыку не спыніць!" (МСМ).
18.55 Скандалы тыдня.
19.30 Гумарыстычная праграма "ОСП-студыя".
20.20 Сатырычны кіначасопіс "Фіціль".
20.35 А. Міронаў у фільме "Тры плюс два".
22.35 Шоу Івана Дзямідава "Абоз".
23.15 Праграма перадач на заўтра.
23.20 Дарожны патруль.
23.35 Дыск-канал. Кай Метаў.
0.45 Начны сеанс. "Канікулы" (Літва).

**8-ы канал**

15.00 Джойс Майер "Жыццё ў слове".
15.30 Свет прыгод. Маст. фільм "Кітайскі квартал".
17.30 Музычная праграма.
18.15 Мультфільмы "Канёк-Гарбунок".
19.30 Серыял па выходных "Камісарша".
20.30 Hi-Fi music.
21.00 Суперзоркі Галівуда. Роберт дэ Ніра.
22.00 Роберт дэ Ніра ў фільме "Праўдзівая гісторыя гэтага хлопца".

## Нядзеля, 17 жніўня

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 "Кактэйль па нядзелях".
9.00 "Востраў натхнення". Івянецкая школа-інтэрнат.
9.15 "Воўк і сямёра казлянят". Мультфільм.
9.25 Вяршыня свету. Тэлевіктарына.
10.00 "Усё нармальна, мама!" Забаўляльная праграма.
10.35 Тураб'ектыў. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак.
11.00 "Арсенал". Праграма для вайскоўцаў.
11.30 "Вайна ў паветры". Дак. серыял (ЗША).
11.55 "Я малюю".
12.10 Вяскоўцы. Калгас "Бальшавік" Ваўкавыскага раёна. Перадача з Гродна.
12.40 Алімп.
13.00 "На зыходзе лета". Маст. фільм.
14.15 Балет Я. Панфілава "Барабаны для Сусвету і скрыпка для смутку".
15.00 Навіны.
15.20 Камп'ютэрны палігон.
15.40 Канцэртны сезон. Уладзімір Співакоў і "Віртуозы Масквы".
16.20 Творчае маладзёжнае аб'яднанне "Крок". "Оскар". Тэлегульня.
16.50 Тэлеанонс.
16.55 Запрашаем у Аўцюкі. II Усебеларускі фестываль народнага гумару.
17.45 Аляксандр Філіпенка ў маст. фільме "Пра вяртанне забыць".
19.10 Абібок.
19.40 Калыханка.
20.00 Рэзананс.
20.50 Спартыўны тэлекур'ер.
21.10 Тэлебарометр. Прагноз надвор'я.
21.25 Ток-шоу "Карамболь" з удзелам Іллі Алейнікава і Юрыя Стаянава.
22.00 "Сінема": Джэсіка Ланж у маст. фільме "Салодкія мроі". (ЗША).
23.55 "Бархатны сезон". Музычна-забаўляльная праграма.

**ГРТ**

7.00 Мікалай Рыбнікаў у фільме "Ім пакараецца неба".
8.45 Мультфільмы нашага дзяцінства. "Сястрыца Аленушка і братка Іванушка".
8.55 Спортлато.
9.00, 14.00, 23.10 Навіны.
9.15 "Бесталковыя заметкі" Дзм. Крылова.
9.35 Пакуль усе дома.
10.10 Ранішняя зорка.
11.00 Армейскі магазін.
11.25 Грай, гармонік любы!
11.55 Сельская гадзіна. Тэлечасопіс.
12.25 Серыял "Падводная адысея каманды Кусто". "Гаіці: воды смутку".
13.20 Смехапанарама.
14.15 Віртуозы з Сан-Францыска — "Кронас-квартэт" у праграме "Запрашэнне да музыкі".
14.45 Клуб падарожнікаў.
15.30 Мультфеерверк.
16.15 Шчаслівы выпадак.
17.10 Футбольны агляд.
17.40 КВЗ-асарці.
18.10 Надвор'е.
18.15 Песня-97.
19.00 Рамантык закона ў дэтэктыўным серыяле "Строга на поўдзень".
19.50 Кінаафіша.
20.00 Час.
20.40 Леанід Філатаў і Георгій Жжонаў у вострасюжэтным фільме "Экіпаж".
23.20 Пірс Броснан у прыгодніцкім фільме "Разарваны ланцуг".

**Расія**

7.00 Ранішні экспрэс.
7.55 Гандлёвы дом "Ле Монці".
8.10 Чэмпіянат Еўропы па водных відах спорту. Воднае пола.
8.35 "Ва ўсіх на вуснах". Праграма Наталлі Дар'ялавай.
8.50 Добрай раніцы, краіна!
9.30 Прысяга.
10.00 Весткі ў адзінаццаць.
10.15 Рускае лата.
10.55 Без пяці дванаццаць.
11.00 Кніжная лаўка.
11.30 Чалавек на Зямлі.
12.00 Новая Расія. Фестываль рэгіянальных праграм. "Сляды на зямлі" (Чэлябінск).
12.30 Наш сад.
13.00 Весткі.
13.20 "Арабела вяртаецца, ці Румбурак — кароль краіны казак". Маст. фільм (Чэхія). 5-я і 6-я серыі.
14.25 Сад культуры.
14.55 Чароўны свет Дыснея. "Кранугы", "Аладзін".
15.50 Доўгань-шоу.
16.20 Рэпартаж ні аб чым.
16.35 Футбол без межаў.
17.05 "Усё, што змагу, спяю.." Памяці А. Міронава.
17.45 L-клуб.
18.20 "Аншлаг" прадстаўляе.
19.00 Люстэрка.
20.00 Старая кватэра. Год 1953. Частка 1-я.
21.05 "К-2" прадстаўляе: Аляксей Герман у праграме "Абзац". Частка 1-я.
22.00 У Ксюшы.
22.30 Чэмпіянат Еўропы па водных відах спорту.
23.30 "Востраў Паскалі". Маст. фільм (Вялікабрытанія).
1.15—1.28 Рэк-тайм.

**Санкт-Пецярбург**

9.30, 12.30, 15.30, 18.30, 21.30 Інфарм ТБ.
9.45 Тата, мама, я — спартыўная сям'я.
10.15 Узлётная паласа.
10.45 "Індаба". Тэлесерыял.
11.10 "Паляўнічыя". Дак. серыял аб прыродзе (ЗША). 8-я серыя. "Кашэчы след".
12.00 "Старое танга". А. Блок. "Незнаёмка".
12.45 Экспрэс-кіно.
13.05 "Лятучая мыш". Маст. фільм (Расія). 1-я і 2-я серыі.
15.15 Лялькі і трубы.
15.45 "Ты і я". Музычны фільм.
16.05 Паласатая музыка.
16.20 Кідайка.
16.55 Тэлестанцыя "Мая Расія". "Сталкер".
17.25 Тэлемагазін.
18.55 "Тарпеданосцы". Маст. фільм.
20.25 У небе Пецярбурга.
20.45 Легенда аб чырвонай Жызэлі.
21.45 Міжнародны агляд.
22.20 "Чорны кот". Мастацка-публіцыстычная праграма.
22.55—00.41 "Цень сумнення". Маст. фільм (Францыя).

**НТБ**

7.00 Сёння раніцай.
7.15 Маст. фільм "Трактарысты".
8.40 Мультфільм.
9.00 Вуснамі дзіцяці.
9.30 Тэлегульня "Зразумей мяне".
10.00 Свет прыгод і фантастыкі. Маст. фільм "Вайна ў космасе" (ЗША). 1-я серыя.
10.45 Ад "Вінта".
11.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.15 6 сотак.
11.30 Што пачым.
12.00 Дак. серыял "Мафія". Фільм заключны.
12.30 Кніжны магазін.
13.00 Камедыйны серыял. "Караліна ў Нью-Йорку" (ЗША).
13.30 Кіно, кіно, кіно: навіны Галівуда.
14.00 Час "Ч" з Вольгай Кучкінай.
14.30 "Свая гульня".
15.20 Канцэрт памяці Роберта Раждзественскага.
16.20 Серыял па выхадных. "Савана" (ЗША). 11-я серыя.
17.15 Навіны дня з Натальляй Антонавай.
17.30 Нядзельная праграма Мікалая Фаменкі "Рускія цвікі".
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.30 Прэмія "Оскар". Палітычны дэтэктыў Алана Пакулы "Уся прэзідэнцкая раць" (ЗША).
21.40 Прэм'ера. Сацыяльная драма Л. Гараўца "Кава з лімонам".
23.15 Начны канал. "Плейбой-шоу".

**ТБ-6 Масква**

6.00, 7.00, 15.25 "Шэсць навін".
6.10 Дыск-канал (МСМ).
7.35 Мультфільмы "Самы галоўны верабей", "Дрэва і кошка", "Качаня Цім".
8.05 Тэлемагазін "Дзякуй за пакупку"
8.35 Дзіцячы сеанс. "Хлопчык і лось".
9.50 Шоу ежы "Пальчыкі абліжаш".
10.30 Гумарыстычная праграма "Назло рэкордам!"
10.55 Серыял аб прыродзе.
12.00 "Канон".
12.35 Ток-шоу "Музыка і прэса": "Акулы пяра" — Яўген Белавусаў.
13.30 Ток-шоу "Зрабі крок".
14.25 Спорт тыдня.
14.55 "Масква Анастассі Салаўёвай".
15.10 Тэлеканкрэтна.
15.40 Дарожны патруль.
16.00 Маскоўскі Міжнародны клубны турнір па хакею "Кубак Спартака". "Зоркі Расіі" — "Спартак".
17.40 Дыск-канал. REM.
18.45 Праграма А. Паліткоўскага "Кіславодскі тупік".
19.20 "Аглядальнік".
20.10 Кіначасопіс "Фіціль".
20.25 А. Міронаў у фільме "Саламяны капялюшык". 2 серыі.
22.55 Тэледыскатэка "Партыйная зона".
0.20 Дыск-канал "Вышэй толькі зоркі!"

**8-ы канал**

15.00 Добрая вестка з Рыкам Рэнерам.
15.30 Маст. фільм для дзяцей "Эдвард — рукі-нажніцы".
17.15 Мульт-планета.
18.30 Калекцыя 8-га канала. QUEEN.
19.30 Трукачы Галівуда.
20.00 Серыял па выхадных "Камісарша".
21.00 Дак. экран.
21.30 Навіны "К-Відэа".
22.00 Вудзі Голдберг у кінакамедыі "Эддзі".



# У КОЖНАГА МУЗЫКІ ЁСЦЬ ПЕРСПЕКТЫВА РАЗВІЦЦЯ

***Пра мінскі сімфанічны аркестр "Collegium musicum" вядома шмат — гэтым калектывам можа ганарыцца Беларусь. Наш спецыяльны карэспандэнт сустрэўся з кіраўніком сімфанічнага аркестра дырыжорам Вячаславам БАРТНОЎСКІМ і ўзяў у яго інтэрв'ю.***

**— Спадар Вячаслаў, якія адносіны паміж дырыжорам і музыкамі?**

— У працэсе музіцыравання — адны, падчас падрыхтоўкі праграмы — другія і зусім іншыя пры вырашэннях бытавых і тэхнічных пытанняў. Кожны музыка — творчая асоба. Кіраўнік калектыву ў некатарай ступені павінен быць педагогам, псіхолагам. Калі фарміраваўся наш калектыў, я быў абавязаны прааналізаваць усе фактары, бо, да прыкладу, не кожны прафесіянал можа граць у аркестры.

**— Як даўно вы са сваім калектывам?**

— Гісторыя простая. У 1986 годзе аб'ядналася група маладых музыкаў. Так быў утвораны камерны аркестр. Вось з таго часу я і працую з гэтым калектывам. Спачатку гэта быў камерны аркестр упраўлення культуры мінгарвыканкама, пасля камерны аркестр ПК чыгуначнікаў. Пазней мы сталі незалежнымі. А ў 1992 годзе калектыў быў рэфармаваны — на базе камернага аркестра быў утвораны сімфанічны.

**— Дык атрымліваецца, што вас ніхто не фінансуе?**

— Так. Дзяржава нас не фінансуе. Даводзіцца зарабляць грошы самім. Наш калектыў выступаў у Польшчы, Нямеччыне, Галандыі, Францыі. Былі выступы па розных гарадах Беларусі. Ёсць запрашэнні ў Іспанію, Нямеччыну, Францыю.

На жаль, на Беларусі шмат праблем у музычнай сферы. І вырашаюцца яны вельмі дрэнна. На пачатку стагоддзя сітуацыя была значна лепшай. Да прыкладу, у 1918 годзе ў Віцебску існаваў сімфанічны аркестр, які выконваў складанейшыя праграмы. Узначальваў калектыў вядомы дырыжор Мікалай Малько. У гэты ж перыяд у Віцебску знаходзіўся цэлы шэраг выдатных мастакоў — Шагал, Малевіч... Тады там адбывалася сапраўднае творчае жыццё. А сёння, акрамя Мінска, ніводзін абласны горад не мае прафесійнага сімфанічнага аркестра. Я думаю, што ёсць дзяржаўныя структуры, якія абавязаны займацца вырашэннем гэткай праблемы. У Польшчы практычна кожны невялікі горад мае ці сімфанічны, ці камерны аркестр. Там шмат оперных тэатраў. А мы маем адзін дзяржаўны сімфанічны аркестр. І я не памятаю, каб за апошнія тры гады ён выязджаў на гастролі па Беларусі.

**— Але сітуацыя, можа, не настолькі страшная, бо, акрамя дзяржаўнага сімфанічнага, цяпер ёсць сімфанічны аркестр "Collegium musicum".**

— Гэта не вырашэнне праблемы. Той калектыў існуе насуперак усяму. Культура ніколі не зарабляла сама на сябе. Нонсенс, калі мастацкія калектывы самі шукаюць заробку на жыццё. У свеце існуе гнуткая сістэма фінансавання музычных калектываў; калі нейкая арганізацыя выдаткоўвае на культуру грошы, дык яна карыстаецца льготным падаткаабкладаннем. Ужо ёсць апрабаваная сістэма — не варта нічога выдумляць.

У былым Савецкім Саюзе існавала арганізацыя — Дзяржканцэрт. А з таго моманту, як Саюз спыніў сваё існаванне, яна ад нас адмежавалася. Паколькі прамыя кантакты з замежнымі імпрэсарыю, з канцэртнымі арганізацыямі былі толькі праз Маскву, дык мы аўтаматычна аказаліся адрэзанымі ад усяго свету. Прайшло некалькі гадоў, а мы да гэтага часу не маем структуры, якая б замяніла нам былы Дзяржканцэрт. Таму кожны калектыў спрабуе сам наладзіць кантакты з заходнімі імпрэсарыо. Зрэдчас гэта атрымліваецца, часцей — не. Гэткая сістэма не спрыяе развіццю культуры. На жаль, і заканадаўства нас не абараняе: усе калектывы, якія выязджаюць за мяжу, пакінуты на волю лёсу.

**— У вас ёсць любімыя кампазітары?**

— У кожнага музыкі ёсць перспектыва развіцця. Скажам, тыя творы, аўтары, якія былі блізкімі па духу дзесяць гадоў таму, цяпер адыходзяць на другі план. Для мяне не існуе любімае-нелюбімае. Ёсць творы, да якіх прыходзіш праз гады. Для мяне адзін з гэткіх твораў — Рэквіем Вердзі. Я лічу гэта нармальным.

**— Публіка заўсёды прымае вас добра?**

— Рэакцыя ў кожнай краіне розная. Ад вельмі ціхага паважлівага пляскання ў далоні ў Галандыі да бурных апладысментаў у Францыі. Усё залежыць ад нацыянальнага характару.

**— Прыемна, што нашы выступаюць за мяжой, папулярызуюць нашу краіну...**

— Выступаюць за мяжой многія... Беларусь з'яўляецца пастаўшчыком музыкаў у Еўропу. Звязана гэта з тым, што ў нас ёсць вельмі добрая Акадэмія музыкі, дзе працуюць выкладчыкі высокага ўзроўню. Адкуль у нас і выходзяць добрыя музыкі. Але наша краіна не можа даць ім працы. У нас толькі адзін дзяржаўны сімфанічны аркестр. А калі браць аплату, дык яна не вытрымлівае ніякай крытыкі... Ад гэтага ідзе цэлы ланцужок праблемаў. Нас рэдка наведваюць музыкі еўрапейскага ўзроўню: не можам іх прыняць, заплаціць ганарары, размясціць і г.д. Комплекс гэтых праблемаў і прыводзіць да таго, што нашы маладыя таленавітыя людзі з'язджаюць за мяжу. Гэта крыўдна. Дзяржава траціць гэткія вялізныя сродкі на іх навучанне — школа, вучэльня, кансерваторыя, аспірантура. Гэта дзесьці дваццаць гадоў; а пасля дзяржава фактычна не карыстаецца тым, што мае.

**— Вы супрацоўнічаеце з маладымі кампазітарамі?**

— Кантакты ёсць. Але не магу сказаць, што ў нас вялікае творчае супрацоўніцтва з беларускімі кампазітарамі. Мне цяжка сказаць, чаму гэтак складваецца. З майго боку ініцыятыва была. Неяк я звярнуўся да групы маладых кампазітараў і прапанаваў ім напісаць невялікую п'есу ці уверцюру, з якой можна было б пачынаць гастролі за мяжой. Здавалася б, маленькая праблема — але твора пакуль няма. Хацелася б, каб на нашых выступах гучала музыка нашага беларускага творцы.

**— Музычны свет не стаіць на месцы, адбываюцца ўсялякія цікавыя падзеі. Што для вас апошнім часам было самым цікавым і запамінальным?**

— Можна адзначыць праект, які быў распрацаваны патрыярхам англійскага джаза Білам Скітам. Ён заказаў інструментоўкі для саліруючага саксафона і для сімфанічнага аркестра. Сам праект цікавы тым, што ён ёсць як бы спроба рэанімацыі музычнага накірунку 20 — 30-х гадоў — сімфаджаза.

Затым я адзначыў бы выкананне Рэквіема Вердзі, што праходзіла вясной у мінскім касцёле св. Сымона і Алены. Гэта выступленне было цікавае тым, што ў ім удзельнічалі салісты з Расіі, Літвы.

Наш калектыў нядаўна вярнуўся з падарожжа па Францыі. Мы зладзілі турнэ — "Мідзі-Пірэнеі". У праграме ў нас былі — Рэквіем Фарэ, Рэквіем Моцарта, Рэквіем Дэруфле, опера балгарскага кампазітара Шахназарава. Была праграма, прысвечаная творчасці Брамса. Упершыню з нашым аркестрам супрацоўнічаў вядомы французскі дырыжор Стэфан Кардон. Калектыў атрымаў запрашэнне на наступны год прыняць удзел у трох фестывалях. Мяне запрасілі прыехаць у Францыю ў лютым і папрацаваць з французскім аркестрам.

У гісторыі калектыву быў прыемны перыяд, калі на працягу пяці год мы праводзілі музычныя асамблеі ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Я з цеплынёй згадваю тыя часы, бо нашы выступленні праходзілі паралельна з мастацкімі выставамі. Гэткі сінтэз мастацтваў ідзе на карысць усім.

**— Дык можна спадзявацца, што ў бліжэйшым будучым вы нас парадуеце нейкім новым сінтэзам мастацтваў?**

— Я цяпер працую над праектам, які звязаны з музыкай і святлом. У прынцыпе я вярнуўся да тых ідэй, што выношваў Скрабін. Але будзе ў гэтым праекце і новае — пластыка. Тут будуць задзейнічаны аркестр, тэатр пантамімы, рэжысёры па святле.

**Зміцер ВОЛКАЎ**

# ВІЦЕБСК — МІНСК — МАСКВА — АМЕРЫКА

Гэты маршрут пазначаны на кампакт-дыску, што падарыла мне Ніна Слюсар, віцябчанка, якая цяпер жыве ў ЗША. Сустрэліся мы, зразумела, па гэты бок акіяна — Ніна наведалася да родных у Віцебск і ў якасці перакладчыка была "прыцягнута" да мерапрыемстваў "Славянскага базару". Дваццаць аўтарскіх экземпляраў кампакт-дыска, яшчэ "гарачага", толькі што надрукаванага, — частка паўтысячнага накладу, які паціху разыходзіцца па Амерыцы. На ўкладышы пазначана на рускай і англійскай мовах наступнае:

"Ніна Слюсар і Алена Зыба — добра вядомы ў музычным свеце дуэт акардэаністак, які склаўся яшчэ ў часы навучання ў Віцебскай музычнай вучэльні ў 1983—1987 гадах... Удасканальвалі майстэрства ў Белдзяржкансерваторыі ў класе праф. Сеўрукова..., бралі ўдзел у шматлікіх конкурсах сольных выканаўцаў, упершыню на народным факультэце атрымалі кваліфікацыю артыстаў камернага ансамбля.... У 1997 годзе скончылі асістэнтуру-стажыроўку ў Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных (клас праф.Сямёнава). Дуэт — тройчы лаўрэат міжнародных конкурсаў (1991 і 1996 гады — Клінгенталь, Германія, 1994 — Кастэльфідарда, Італія), гастралявалі ў Польшчы, Фінляндыі, ЗША, бралі ўдзел у шматлікіх фестывалях акардэоннай музыкі на абшарах былога СССР ад Варкуты да Уфы... У рэпертуары дуэта арыгінальныя п'есы для акардэона і пераладжэнні твораў розных стыляў, эпох і напрамкаў..."

А вось што дадала да гэтага сама Ніна:

— Мы з Ленай сябруем ужо больш за чатырнаццаць гадоў, пачыналі граць разам яшчэ ў вучэльні, бо вучыліся ў аднаго педагога — Галіны Віктараўны Пажарыцкай. Нейкі час займаліся сола, бо ўсе акадэмічныя заняткі звычайна арыентаваны на сольнае выкананне. Але ж заўсёды душа ляжала да дуэта, бо ў дуэта больш магчымасцей. Граць дуэтам, можа, і складаней у плане ансамбля, сыгранасці, пастаноўкі выканальніцкіх задач — але ў нас такіх праблем няма, мы часам і думкі адгадваем адна адной, і пачынаем казаць адначасова тыя самыя словы, настолькі мы — сябры. Цяпер, калі я пачала жыць у Амерыцы, нам цяжка, адчуваем неабходнасць сабрацца зноў. Магчыма, я вярнуся з-за акіяна, нават мой муж ужо згодны.

... Муж — музыкант па прызванні, а працуе мастаком-дызайнерам: на Захадзе толькі вельмі нямногія "супер-зоркі" працуюць у музыцы прафесійна, у сэнсе — зарабляюць музыкай на жыццё. Як рокавы музыкант, ён запісвае свой пяты кампакт-дыск і даволі вядомы ў гэтым асяроддзі.

... Мяне часам запрашаюць у тыя ці іншыя інструментальныя гурты — дзеля нейкай экзотыкі. У Амерыцы, краіне вельмі шматнацыянальнай, ёсць людзі, якія лічаць акардэон сваім нацыянальным інструментам. Гэта, у першую чаргу, выхадцы з Лацінскай Амерыкі. З другога боку, акардэаністы там часта працуюць у клубах, рэстаранах — таму гэтую музыку называюць "everybody polka" — "полька для ўсіх". Напэўна, гэта адгалосак папулярнасці акардэона ў Еўропе: палякі, французы яго абагаўляюць, у Фінляндыі нават у царкве замест аргана гучыць акардэон, не кажучы аб парках, скверах, месцах адпачынку. У Амерыцы такая віртуозная ігра — з маёй падрыхтоўкай гэта нядзіўна — успрымаецца проста як цыркавы нумар, амерыканцы прыходзілі на нашы канцэрты як на шоу. Калі да мяне прыязджала Лена, мы выступалі на мясцовым тэлебачанні ў горадзе Тампа, атрымалі нават "Залатую касету" — адзнаку "лепшаму таленту года". За месяц, што яна гасціла ў мяне, мы запісалі кампакт-дыск, у нас было чатыры тэлевізійныя праграмы, праграма на радыё і сольны канцэрт у вялікім культурным цэнтры "Tampa Bay Performing Arts Center".

... На жаль, цяпер акардэон, баян у нас, у Беларусі і Расіі, — не масавыя інструменты, хутчэй "элітарныя" ці камерныя. На канцэрты збіраюцца выключна аматары. Таму і фестываляў, конкурсаў стала значна менш.

... Акардэаніст — увогуле не жаночая прафесія. Проста перавозіць інструмент з месца на месца на гастролях — і то складана, фізічна. Не кажучы ўжо пра тое, каб адпрацаваць паўтары гадзіны на канцэрце. А калі мы рэпеціруем па восем гадзін, гэта яшчэ і фізічная праца — у выніку якія ў нас рукі моцныя! У хатнім "армрэслінгу" я нават вельмі многіх мужчын часценька "ламала".

... Музыканты-мужчыны могуць мець сям'ю, дзяцей і адначасова паспяхова выступаць, працаваць, для жанчыны гэта значна цяжэй, часцей за ўсё гэта вялікае выпрабаванне. У свой час мы былі апантаныя, прыходзілі ў Акадэмію раніцай, а выходзілі ноччу. Таму і Лена, і я збудавалі сем'і па нашых мерках вельмі позна... Цяпер ужо ў Лены — дзіця, я таксама думаю пра гэта, але ж не хацелася б развітвацца з музыкай, з акардэонам. Мы абавязкова яшчэ збяромся разам!"




Ці трэба нешта дадаць да гэтай гісторыі, каб растлумачыць, чаму я палічыў яе вартай вашай увагі, шаноўныя чытачы? Напэўна, трэба, бо на самай справе тут — дзве гісторыі. Першая — аб упартасці, таленце і нашым бурлівым часе непаседаў, другая — аб музыцы. Немагчыма на газетных старонках перадаць уражанне ад музыкі, тым больш — саму музыку. Таму кампакт я перадаў на радыё. Хутка, сёмага жніўня, у праграме "Класіка" можна будзе пачуць расказ аб акардэоне — і музыку, што іграюць Ніна і Алена. (Праграма "Класіка" выходзіць у эфір па чацверах у дзесяць гадзін сорак хвілін раніцы на другім канале беларускага радыё. Вядучая — Таццяна Аляксандрава.)

**Ігар КЛОКАЎ**

***Сёння мы публікуем унікальныя ўспаміны вядомага беларускага жывапісца Акіма Міхайлавіча ШАЎЧЭНКІ, якія ахопліваюць перыяд ягонага творчага жыцця ў Гомелі і Маскве ў 20-я гады. Успаміны мастака я занатаваў у 1971 годзе і з тае пары яны захоўваліся ў маім хатнім архіве.***

***А.Шаўчэнка памёр у 1980 годзе ва ўзросце 78 гадоў. Цудоўны жывапісец-каларыст, таленавіты педагог, ён пакінуў пасля сябе не толькі дзесяткі адораных вучняў, але і значную мастацкую спадчыну. Ягоныя карціны "Плытагоны", "Тынкоўшчыцы", "У дзень Перамогі", "Вячэрні Мінск", цыкл палотнаў пра Янку Купалу і Якуба Коласа, нацюрморты і пейзажы ўвайшлі ў залаты фонд нацыянальнага жывапісу.***

***Спадзяёмся, што гэтыя ўспаміны з цікавасцю прачытаюць не толькі мастацтвазнаўцы і мастакі, але і ўсе, хто цікавіцца праблемамі нацыянальнай культуры 20-х гадоў нашага стагоддзя.***

**Барыс КРЭПАК**

# А ПАЧАЛОСЯ ЎСЁ Ў 1917 ГОДЗЕ...

Ні ў якой ступені не прэтэндуючы на абавязковасць маіх тых альбо іншых ацэнак, мае ўспаміны, хутчэй, з'яўляюцца вольным аповедам пра ўражанні тых далёкіх гадоў майго вучнёўства.

А пачалося ўсё ў 1917 годзе, калі я скончыў вясковую школу ў вёсцы Карма Добрушскага павета. Паехаў у Гомель, дзе паступіў у настаўніцкую семінарыю. Там я і захапіўся маляваннем. Свае першыя поспехі ў гэтай справе я замацаваў на педагагічных курсах у цудоўнага мастака-акварэліста і малявальшчыка — Сяргея Іванавіча Грамыкі, выхаванца Кіеўскай мастацкай вучэльні.

Там жа, у Гомелі, у 1921 годзе я паступіў у мясцовую педагагічную вучэльню і з гэтага часу зразумеў, што маё сапраўднае прызванне — мастацкае рамяство. Натуральна, я цікавіўся ўсім, што адбывалася тады ў культурным жыцці горада і, асабліва, у выяўленчым мастацтве. Часта хадзіў па вуліцах, разглядаў старыя дарэвалюцыйныя помнікі, назіраў, як будаваліся новыя, іншы раз зазіраў у цэрквы, любаваўся невытлумачальнай прыгажосцю і мудрасцю абразоў, хаця да гэтага часу барацьба з "опіумам для народа" набірала ўсё большую хуткасць.

Першае, што мяне гранічна зацікавіла ў новым мастацтве — гэта роспіс у агітпункце чыгуначнага вакзала. Велізарная зала, вялікія вокны з прыгожымі прасценкамі. І на сценах — некалькі кампазіцый, выкананых клеявымі фарбамі. Асабліва цікавай падалася мне адна, шматпостацевая кампазіцыя: людзі — у поўны рост, у разнастайных нацыянальных строях; у цэнтры — жаночая постаць Свабоды, у царскім вянцы і багатай вопратцы. Праз усю кампазіцыю адмыслова вілася ружовая стужка з масіўным надпісам "Інтэрнацыянал". Гэтая постаць чымсьці нагадвала казачную царэўну, якая нібыта сышла з папулярных тады шкатулак. На міжваконнях былі адлюстраваныя сюжэты меншага памеру, прысвечаныя чырвонаармейцам, якія ідуць у атаку, рабочым з чырвонымі сцягамі і сейбітам.

Акрамя гэтага, былі раскіданы стракатыя дэкаратыўныя эмблемы і пячаткі. Як я даведаўся ад Грамыкі, аўтарам гэтых роспісаў быў мастак Афанасій Сазонаў, з якім я пазней пазнаёміўся падчас маіх заняткаў у студыі імя Урубеля. У гэтую студыю я ўпершыню трапіў восенню 1920 года, калі тут экспанавалася выстава твораў студэнтаў і мастакоў-педагогаў С.Каўроўскага, К.Мальца, Быхоўскага і іншых. Тут жа месцілася і пастаянная экспазіцыя, складзеная з эцюдаў натуршчыкаў, малюнкаў з гіпсавых масак і постацяў, гэта значыць, твораў навучальнага, "класнага" характару. Аднак студэнты ў сваіх творчых спробах часта капіравалі гэтыя ўзоры.

Добра памятаю эцюды маладога таленавітага Жоры Ніскага, што адлюстроўвалі нейкія надзвычай фантастычныя каляровыя матывы з дзіўнымі крыналінавымі постацямі. Яны былі выкананы асобнымі каляровымі палоскамі, квадрацікамі, ромбікамі, што аддалена нагадвалі сілуэты дамоў, дрэваў, воблакаў. Шмат гадоў пазней мы сустрэліся з Георгіем Ніскім у ягонай маскоўскай майстэрні — ён быў ужо народным мастаком, адным з самых вядомых савецкіх пейзажыстаў-наватараў. За кілішкам гарэлкі мы з асалодай узгадвалі той далёкі і незабыўны час — час бурлівай маладосці, дзёрзкіх мар і надзей, светлых памкненняў...

Сярод мастакоў-педагогаў, якія паказвалі свае творы ў студыі, яшчэ запомніўся Сяргей Каўроўскі з ягонай "Месячнай сімфоніяй". Карціна таксама была выканана мазочкамі, але акрэслена чорным контурам накшталт візантыйскай мазаікі. Хаця, аднак, тады я гэтых слоў — "Візантыя", "мазаіка" — не ведаў. Памятаю, на палатне быў намаляваны чалавек у лодцы, сярод зараснікаў. Усе магчымыя адценні блакітных, бэзавых, ружовых, зеленаватых і сініх таноў рабілі гэты твор вельмі прывабным і святочным.

З твораў іншых мастакоў запомніў серыю карцін Афанасія Сазонава, таго самага аўтара роспісаў на вакзале. Назваў палотнаў зараз не памятаю, але ўсе яны былі прысвечаны злабадзённай на той час тэме — мяшэчнікам і іхняму нялёгкаму побыту. Палотны распавядалі, як яны ехалі на Украіну, каб набыць там зерне і муку; як прывозілі адтуль сваім галодным сем'ям харчы альбо проста перапрадавалі іх на базарах, каб набыць газу або соль. На адной карціне — адчыненыя дзверы таварнага вагона, а ў вагоне ўжо паўнютка людзей з мяхамі і рукзакамі. Але людзі ўсё працягваюць ламіцца і караскацца ў тамбур.

На другой карціне — таксама таварны вагон, але цягнік ужо рухаецца. На даху сядзяць і ляжаць мяшэчнікі, паміж імі складзены мяхі. І на буферах вагона, на дошках — таксама людзі. Наступная карціна: на даху вагона сядзяць маладыя хлопцы і дзяўчына, над іхнімі галовамі высокае сонечнае неба.

Усе творы былі напісаны алеем на фанеры, у акадэмічнай манеры, але добра зроблены па колеры. На жаль, твораў гэтага мастака мне болей бачыць не давялося. Праўда, пазней, у 30-я гады, я неяк набыў адну паштоўку з рэпрадукцыяй карціны Сазонава "Беларускія партызаны": на саламяным даху вясковай хаты — два мужыкі, адзін з якіх са стрэльбай пільна ўглядаецца ўдалечыню...

Неяк я сустрэў Сазонава ў студыі Урубеля: ён быў апрануты ў форму дэмабілізаванага вайскоўца — у фрэнч і боты. Запомніўся адзін сказ з ягонага аповеду — "сённяшні рэалізм не ў пашане". Тады я даведаўся, што Сазонаў толькі што вярнуўся з Петраграда, куды ездзіў паступаць у Акадэмію мастацтваў. Але — не паступіў.

Што я рабіў у студыі? Маляваў, пісаў, кампанаваў. Памятаю, малявалі мы гіпсавую мадэль помніка Працы пад кіраўніцтвам Каўроўскага. А ў гэты час у Гомель прыехаў і сам аўтар праекта гэтага помніка — скульптар дэ Валеро, іспанец па паходжанні. Я быў трохі з ім знаёмы. Помнік усталявалі на гомельскай плошчы Працы. Гэта была гіпсавая трохметровая, напалову аголеная постаць у актыўным руху, пафарбаваная алейнай фарбай.

Праз некалькі гадоў гэты помнік некуды знік, праўда, ён застаўся на вокладках школьных сшыткаў фабрыкі "Паледрук".

Што яшчэ запомнілася з твораў таго часу? Пры ўваходзе ў нашу студыю стаяла велізарнае пано, зробленае з некалькіх аркушаў фанеры, з постаццю сцяганошы, выкананае таленавітым мастаком Быхоўскім. А побач, на Працоўнай вуліцы, працавала скульптурная майстэрня. Здаралася, я зазіраў у яе вялікія вокны, глядзеў, як там ляпілі бюсты Маркса, Энгельса, Троцкага, Свярдлова. Сярод маіх знаёмых працаваў там і Шыфрын. Нядаўна я сустрэў яго ў Маскве: ён — мастак на фабрыцы цацак.

У тыя часы скульптурныя партрэты былі паўсюль — у клубах, школах, на прадпрыемствах, у агіткутках, у чырвонаармейскіх частках. Большасць з іх выконваліся з гліны асаблівага, чырванаватага колеру і ніколі не псаваліся. Захаванасць была ідэальнай! А што да газетна-часопіснай графікі, дык гэтая галіна таксама была прэрагатывай прафесійных мастакоў. Той самы Быхоўскі пастаянна выконваў для абласной газеты "Палеская праўда" арыгінальныя малюнкі, застаўкі, невялікія кампазіцыі. На газету працавалі і Малец, і Каўроўскі, і Балашоў — прыроджаны газетны графік. Той самы Балашоў, які ў 30-я гады як мастак зрабіў "цукерку" з часопіса "Вокруг света"! Пазней Масква дала прытулак і іншаму вельмі таленавітаму мастаку — Яўмененку, які стварыў у Гомелі яскравыя і прыгожыя плакаты для вітрын кнігарняў. У сталіцы ён стаў вядомым мастаком-мультыплікатарам.

Ішоў час. І аднойчы заняткі ў студыі Урубеля перапыніліся. Безумоўна, было шкада, але доўга мы не засмучаліся, бо ў Гомелі ў той час было дзе папрацаваць. Нядоўга думаючы, я накіраваўся на вуліцу Савецкую, дзе месцілася гарнізонная студыя, што падпарадкоўвалася Чангарскай кавалерыйскай дывізіі. Там, на трэцім паверсе будынка кожны вечар адбываліся заняткі па маляванні. Кожны жадаючы атрымліваў аркуш шэрай абгортачнай паперы і стрыжань пячнога вугалю. Праўда, большасць пачаткоўцаў-мастакоў былі вайскоўцы-кавалерысты, пераможцы Врангеля, хаця заходзілі і цывільныя.

У вялікай, добра асветленай зале для малявання былі ўсталяваны спецыяльна зробленыя падстаўкі. Ты падыходзіш да падстаўкі, прымацоўваеш паперу, і — малюй на здароўе! Сюды прыходзілі дзяўчаты і хлопцы: нехта — проста дзеля цікаўнасці, нехта — папазіраваць.

Сярод кавалерыстаў, між іншым, былі адораныя хлопцы, адзін з якіх, памятаю, нават захапляўся жывапісам Барысава-Мусатава! У адным з кутоў, у вялікім чане мокла гліна; у другім — сталі мяхі з гіпсам альбо цэментам: гэта для будучых скульптараў. А кіраваў гэтай цудоўнай



П.Раманоўскі. Партрэт мастака Акіма Шаўчэнкі. 1970. Палатно, алей.

студыяй Яўген Паўлавіч Краўчанка. Аднойчы згодна з нашай просьбай кавалерысты прывялі проста на трэці паверх сапраўднага, жывога каня! Нейкі хлапчук сеў на яго, і ўсе мы з вялікім задавальненнем малявалі "натуру".

Прыходзілі ў гэтую студыю папрацаваць і мае старыя знаёмцы па былой "урубелеўцы" — Каўроўскі, Сазонаў, Малец. Сярод выкладчыкаў запомніліся Мікалай Яфрэмавіч Русецкі і Усевалад Уладзіміравіч Зорын.

Дарэчы, на гэтую студыю кlаліся вельмі вялікія нагрузкі напярэдадні рэвалюцыйных святаў. Трэба было аформіць горад, і ў кожнай галіне мастацкага афармлення былі свае спецыялісты. Велізарныя пано на фанерных шчытах звычайна выконваў Быхоўскі. Чырвоныя з бронзай сцягі для дэманстрацый былі прэрагатывай Краўчанкі. Між іншым, Яўген Паўлавіч у студзені 1924-га выканаў і агромністы жалобны вянок з партрэтам Леніна, які быў пасланы ў Маскву на пахаванне правадыра.

Гарнізонная студыя Краўчанкі праіснавала да 1940 года. Не аднойчы мяняла яна сваё месцазнаходжанне. Але, пастаянна папаўняючыся мастацкімі матэрыяламі, муляжамі птушак, звяроў, гіпсавымі адліўкамі, маскамі, арнаментыкай, а, галоўнае — новымі і новымі людзьмі, якія прагнулі далучыцца да мастацтва, — яна заваявала прызнанне не толькі ў мастакоў, але і ўва ўсіх гамяльчан.

*(Заканчэнне будзе.)*

# ХУСТАЧКА ЯК СРОДАК АБАРОНЫ

За акенцам машыны раз-пораз мільгаюць указальнікі: "Новая Ліпаўка", "Новыя Саматэвічы". На мой запытальны погляд спадарожнік адказвае: "Тут жывуць перасяленцы." За дваццаць кіламетраў адсюль пачынаецца "зона" — гэта і ёсць суровая адзнака гэтых мясцінаў. Паблізу Касцюковічвачам адкрылася адна з "новых" вёсак: стройненькія катэджы фарсілі непадалёку ад дарогі. Побач з зухаватым новым цагляным домікам нечакана-неспадзявана знайшла прытулак старая, амаль струхнелая пуня. Як трапіла яна сюды, сапсаваўшы антураж, першае добрае ўражанне, якое ўзнікла адразу пры выглядзе ноўзбудаванай сучаснай вёскі? Дбайны гаспадар перавёз яе з "зоны", маўляў, будзе нялішняй, у гаспадарцы яшчэ як спатрэбіцца! "Дык яна ж выпраменьвае!" — скажаце вы. Так, выпраменьвае, але да гэтай бяды тут ужо прызвычаіліся... Як не прызвычаіцца? Адна трэць Касцюковіцкага раёна пацярпела ад наступстваў Чарнобыля. Памятнаю вясною 86-га тутэйшыя людзі перажылі востры пранізлівы страх і боль за сваё жыццё, за будучыню дзяцей, а пасля паступова паабвыкліся з гэтай бядою: маўляў, як бы там ні было, а жыць жа трэба, трэба жыць!..

А вось і Касцюковічы: надзіва чысты і прыветны гарадок. Не так даўно тут пачаў працаваць ноўзбудаваны цэментны завод, які адносяць да ліку сусветна значных. Адпаведна разрасліся апошнім часам Касцюковічы — новы мікраёраён, дзе жывуць рабочыя завода, не саступіць сталічнай Малінаўцы ні па памерах, ні па планіроўцы.

Наогул, зямля касцюковіцкая слаўная не толькі цэментным заводам, гэта, так бы мовіць, адзнака бліжэйшага часу, але найперш сваёй багатай і цікавай гісторыяй, людзьмі, якіх узгадавала. У галерэі слаўных імён — выхадцы з Касцюкоўшчыны: Аркадзь Куляшоў, Іван Чыгрынаў, Масей Сяднёў...

Мы, нарэшце, апынуліся ў цэнтры гарадка, ля новага двухпавярховага будынка раённага краязнаўчага музея. Пры ўваходзе ў музей — скульптурная выява Аркадзя Куляшова, перавезеная сюды з Саматэвіцкага музея, што быў на радзіме знакамітага паэта. Падчас "эвакуацыі" з засыпаных радыенуклідамі Саматэвіч работа Заіра Азгура была пашкоджана і патрабуе зараз рэстаўрацыі. Вось і першая праблема! Ну, а далей, далей праблемаў і нявырашаных пытанняў на нас абрынуўся цэлы воз. Але перад тым, як пра іх распавядаць, хачу зазначыць тую своеасаблівую музейную атмасферу, тое незвычайнае пачуццё прадчування адкрыцця новага, раней нязведанага, што прыйшло, пераступіўшы парог гэтага будынка. А яно, гэтае пачуццё, на пустым месцы не ўзнікае, на яго трэба добра-такі папрацаваць.

Дырэктар музея Людміла Агеева запрасіла нас прайсці на другі паверх, каб агледзець галерэю. Галерэя — адзінае месца, куды ўжо зараз можна запрасіць наведнікаў. Выстава мастака Уладзіміра Шпартава радуе гармоніяй фарбаў і, канечне, наводзіць на роздум: побач з краявідамі роднай Магілёўшчыны ў галерэі знайшлі месца творы мастака пра Чарнобыль. Відавочна, што для Шпартава гэтыя дзве тэмы арганічна зітаваныя. Ля карціны "Прабач і ўратуй" мы затрымаліся даўжэй: на ёй укрыжаваны Хрыстос і жанчына, яна ўкленчыла перад ім, моліцца... з завязаным хусткай ротам. Людміла патлумачыла: у жыхаркі нашай зямлі няма чым абараніцца ад радыяцыі, хіба толькі хустачкай. Падумалася, што гэта яшчэ і наша "немата": малітва сялянкі наўрад ці будзе пачута знявечаным Хрыстом!..



Касцюковіцкі краязнаўчы музей.

Людміла захоплена расказвала ў зале на першым паверсе: "Калі да нас "эвакуіравалі" Саматэвіцкі музей, меркавалася напачатку размясціць яго ў адной з нашых залаў, але пазней рашэнне змянілі: музей павінен быць адкрыты ў Новых Саматэвічах, там, дзе жывуць людзі, якія ведалі Аркадзя Куляшова асабіста, якія яшчэ памятаюць яго. Ну, а пакуль што мы рыхтуем часовыя выставы, прысвечаныя жыццю і дзейнасці паэта.

Увогуле нам вельмі дапамагаюць нашы знакамітыя землякі, папаўняюць наш музей цікавымі экспанатамі. Вядомы мастак Антон Бархаткоў падарыў нам 13 карцін, у асноўным гэта — пейзажы. Зараз вядуцца таксама перамовы з удавой Івана Чыгрынава. Людміла Прохараўна ўжо перадала нашаму музею некаторыя рукапісы і асабістыя рэчы пісьменніка.

Вось ужо тры гады, як мы атрымалі гэты новы будынак пад музей ад гарадскіх уладаў. Здавалася, што за гэты час можна было б аформіць экспазіцыю і адкрыць музей наведнікам. Але так толькі здаецца. Калі мы ўзяліся за работу, узнік шэраг пытанняў, якія вельмі складана было вырашыць. Праўда, гарадскія ўлады, дзякуй ім, выдзелілі нам немалую суму на афармленне — 200 мільёнаў. Асноўнае ж для музея — удала аформленая экспазіцыя. Каб зрабіць яе належным чынам, запрасілі мастакоў з Масквы і Санкт-Пецярбурга. Прыехалі яны, папрацавалі, а праз паўмесяца з'ехалі ад нас, кінулі незавершанай цэнтральную залу музея. Вось цяпер зноў шукаем, хто б змог завершыць распачатае.

Нам вельмі складана працаваць, бо штат наш невялікі: толькі тры адзінкі: дырэктар, навуковы супрацоўнік і захавальнік фондаў. Складана справіцца з такім вялікім аб'ёмам работы, які мы зараз выконваем. Апрача таго, што мы займаемся афармленнем пастаяннай экспазіцыі, мы яшчэ афармляем часовыя выставы. Даводзіцца дапамагаць таксама ў выданні раённай кнігі "Памяць". Каб хаця на адзінку павялічыць штат — было б значна лягчэй". ...Яна яшчэ доўга гаварыла пра музей, пра тое, колькі ўжо зроблена, колькі трэба зрабіць: так разважае клапатлівая гаспадыня, парадкуючы ў роднай хаце. Людміла спадзяецца, што ў хуткім часе знойдзе мастакоў і праз нядоўгі час землякам адкрыецца музей, які дапаможа лепш спазнаць гісторыю роднай зямлі, а значыць, і растлумачыць сабе саміх сябе...

**P.S.** А калі ўжо гаворка зайшла пра мастакоў, то каму, як не творчым людзям найперш разумець неабходнасць адкрыцця краязнаўчага музея менавіта тут, у Касцюковічах. Каб не запаланіў нас Чарнобыль духоўны, які ці не страшней за той, ад якога ўжо пацярпела касцюковіцкая зямля.

**Алена РЫГОРАВА**
*Касцюковічы — Мінск*

# ПРАСІЎСЯ СНАПОЧАК У СТАДОЛУ

Канец лета. Жніво ў беларускіх вёсках у поўным разгары. У гэты час у мінулым на Першую Прачыстую (Успенне) адзначалі свята ўраджаю. У гэты дзень неслі на жніво пірагі, хлеб ды соль — ахвяраванні вышэйшым сілам урадлівасці.

*Прачыста маці ішла*
*зажынаць*
*У чыстае поле з пшонным*
*пірагом,*
*З пшонным пірагом,*
*з залатым сярпом.*

Праз тры тыдні, на Другую Прачыстую адзначалі свята Багача — дзень заканчэння ўборкі зернавых. У старажытнасці гэтае свята прысвячалася паганскаму богу сонца Даждзьбогу, які даваў дастатак і багацце, потым жа яно прыўрочвалася да хрысціянскага свята Раства багародзіцы. У гэты дзень выконвалі абрад, які зваўся "дажынкі" і адзначаў канец жніва. Жанчыны-жнеі ўпрыгожвалі кветкамі апошні зжаты сноп і з бразгатаннем сярпоў неслі яго ў дом гаспадара, дзе ставілі на пачэсным месцы ў кут. Увесь гэты час пеліся дажыначныя песні, дзе апяваўся апошні снапок:

*Прасіўся снапочак дзевачак:*
*— Ой, звіце з мяне вяночак,*
*Знясіце мяне ў стадолу,*
*Палажыце мяне ў старону.*
*Няхай я ў стадоле пагашчу,*
*Пакуль на піваньку зноў*
*пайду.*

На дзень Багача таксама, ужо з першага зажыначнага снапа, які захоўваўся з пачатку жніва, збіралі зерне і клалі ў кошык, ён, як і само свята, называўся багачом. Потым пад спеў дажыначных песень рабілі з воску свечку, якую змяшчалі ў кошык-"багач". Гэты кошык заносілі ў кожную адрыну, дзе былі зложаны сена і салома ад новага ўраджаю. Гэты абрад павінен быў паспрыяць дабрабыту і шчасцю ў сям'і. Гаспадарчыя пабудовы: адрына, гумно, клець, — іх стан, іх велічыня вызначалі дабрабыт гаспадаркі. Не выпадкова ж у адной з валачобных песень, каб паказаць багацце гаспадара, пелася:

*Шырок, вялік месяц на небе,*
*Шырай таго гумно яго.*

Гумно займала асноўнае месца ў сістэме сялянскіх гаспадарчых пабудоў. Яно прызначалася для часовага захавання неабмалочаных снапоў жыта і іх наступнага абмалоту. Галоўнай часткай гумна быў ток — глінабітная пляцоўка, дзе абмалочвалася зерне. Малацілі ці ўручную цапамі, ці з дапамогай конскай цягі на спецыяльных прыстасаваннях, якія называліся манежамі. Унутры гумна, каля сцен агароджвалі невысокімі сценкамі адсекі для захоўвання снапоў да малацьбы. Важнай часткай гумна таксама была ёўня, ці асець, — спецыяльная сушылка, у якой з дапамогай курной печы падсушвалі снапы перад малацьбой.

З погляду супрацьпажарнай бяспекі гумны заўсёды ставілі на пэўнай адлегласці ад жылых пабудоў. Пры аднабаковай забудове вуліцы яны размяшчаліся ў глыбі сядзібы, пры двухбаковай — насупраць хаты на процілеглым баку вуліцы. У шэрагу раёнаў Беларусі ( у асноўным на яе захадзе) з часам перасталі будаваць у гумнах ёўні, бо агонь з іх печаў часта прыводзіў да ўзгарання гуменных пабудоў.

Зерне пасля абмалоту захоўвалася ў клецях ці амбарах. У гэтых будовах рабілі дашчатыя перагародкі, якія раздзялялі ўнутраную прастору памяшкання на засекі, куды і ссыпалася зерне. Часам клеці рабілі двух'ярусныя, тады на другім ярусе-паверсе захоўвалі пшанічную муку, семянное зерне. Зруб клеці звычайна ставіўся на ўкапаныя па вуглах у зямлю слупы ці вялікія камяні, дзякуючы чаму будова прыўзнімалася над зямлёй, за кошт чаго забяспечвалася праветрыванне клеці, таму ў ёй заўсёды было суха. У беларусаў клець часцей за ўсё ў сваёй канструкцыі мела своеасаблівую галерэю, якая фармавалася звесам даху над уваходам. Гэтая галерэя забяспечвала ахову рабочай зоны перад дзвярыма клеці ад атмасферных ападкаў.

Трэба сказаць, што клеці ў цёплы час у вёсцы выкарыстоўваліся таксама для жылля некаторых членаў сям'і. Часцей за ўсё тут жылі дзяўчаты, дачкі гаспадароў, ці маладжоны. Існаваў у беларусаў нават такі звычай: на Дабравешчанне спальвалі зімовыя пасцелі, якія рабіліся з сена, і пераходзілі начаваць у клець. Дададзім, што клеці ў Беларусі рабіліся як у выглядзе асобна пастаўленых пабудоў, так і ў комплексе з жытлом як прыбудова да хаты.



Клець (кан. XIX — пач. XX ст.).

У гуменны комплекс гаспадарчых пабудоў уваходзілі яшчэ адрыны, пуні, стадолы, сенніцы, сціrты. Усё гэта былі памяшканні для захоўвання снапоў да малацьбы, а таксама сена і саломы. Для адкрытай сушкі кармавых траў ужываліся розныя каркасныя канструкцыі з жардзін, якія называліся пераплотамі, азяродамі, абарогамі.

Зразумела ж, што ад захаванасці гаспадарчых пабудоў залежаў дабрабыт сям'і. Таму ў мінулым у беларускіх сялян вялікую ролю адыгрывалі розныя засцерагальныя абрады, якія праводзіліся ў памяшканнях, дзе захоўвалася зерне, сена, салома. Да гэтых абрадаў можна аднесці і рытуальны абнос адрын з кошыкам з зернем і свечкаю на Багача, пра што гаварылася вышэй. З засцерагальнай мэтай праводзілі на Праводня (нядзеля пасля Велікоднага тыдня) абрадавае замыканне адрын, як казалі, "каб змей не зайшоў". Гэта было важна таму, што ў некаторых мясцінах у адрынах трымалі таксама буйнарагатую жывёлу, якая такім чынам абаранялася ад укусаў змей.

Але, па народных уяўленнях, змея не заўсёды трэба было сцерагчыся. Думалі, што часам у клецях селіцца нейкі чароўны Змей, які прыносіць гаспадарам багацце. Існавала нават прымаўка, якую ўжывалі пры ацэнцы якога-небудзь заможнага селяніна: "Яму Змей грошы носіць".

Народная фантазія насяляла сялянскія гаспадарчыя пабудовы і іншымі міфічнымі жыхарамі. Так, гаварылі, што ў гумне, пад асеццю жыве Гуменнік — дабрадушны маленькі дзядок, які ахоўвае гумно і дапамагае гаспадару сушыць і малаціць збожжа. Аказвае дапамогу сялянам і другі жыхар асеці — Ёўнік, ці Асетнік. Расказвалі, што па начах ён замятае гумно, вее зерне, ранкам жа малоціць жыта. Калі ў яго добрыя адносіны з гаспадарамі, то ён назірае за тым, каб правільна палілася сушыльная печ, каб добра сушыліся снапы. Але каб Ёўнік дапамагаў, а не шкодзіў, яго трэба задобрыць. Таму, калі клалі ў ёўню снапы для прасушкі, першы кідалі ў агонь — Асетніку. Таксама і пасля працы пакідалі адзін сноп у ёўні, як казалі, "каб Ёўніку была занятка". Інакш ён мог раззлавацца і зрабіць у асеці пажар.



Гумно (Палессе, кан. XIX — пач. XX ст.).

Аб зжатым збожжы клапоціцца таксама міфічны дух па імені Рай. Пры малацьбе ён заходзіць у стадолу — складское памяшканне пры гумне — і знаходзіцца там, пакуль усё жыта не будзе вымалачана, назіраючы, каб работа ішла добра. Гаспадары заўсёды былі зацікаўлены, каб да іх на малацьбу завітаў Рай, таму, калі пачыналі звозіць збожжа на ток, звычайна тройчы прыгаворвалі: "Рай, Рай, ідзі да нас!"

Па некаторых звестках, у клеці, дзе захоўвалася абмалочанае зерне, жыў Дамавік. Ён таксама прыносіў тут карысць, бо любіў прасушваць хлеб, перасыпаючы яго са жмені ў жменю. Але падчас у гумнах і пунях з'яўляліся дамавікі-чужакі, якія, у адрозненне ад свайго Дамавіка, бывалі шкодныя, маглі сапсаваць збожжа. Нярэдка свой Дамавік уступаў у барацьбу са шкоднікамі. Але чалавеку ў гэтую барацьбу лепш было не ўмешвацца, бо можа памылкова прыняць старану дамавіка-чужака. Тады свой Дамавік разззлуецца, і гаспадар можа ад яго нечакана атрымаць граблямі ў лоб.

Лічылі таксама, што ў пуні жыве яшчэ адзін нячысцік, які так і завецца Пуннік. Гэта вельмі ціхі жыхар, які звычайна нябачна сядзіць на бэльках ці на кроквах і назірае за тымі, хто ўваходзіць і выходзіць з пуні, цешыцца назіраннем гульняў моладзі. Толькі час ад часу ён палохае малых дзяцей воханнем і ціхім енкам, які даносіцца з-за сценаў гаспадарчай пабудовы.

Але праходзіла зіма, таяў снег, цяплей грэла сонейка. Набліжалася вясна. Хутка зноў у жыцці сялян павінен быў пачацца новы земляробчы цыкл. Неўзабаве трэба будзе збірацца ў поле на вясеннюю сяўбу, адчыняць клеці, даставаць семянное зерне. І напэўна таму менавіта на дахах клецяў ды пуняў збіралася ў беларускіх вёсках моладзь на Гуканне вясны.

"Благаславі, Божа, зіму замыкаці... вясну гукаці", — пелі дзяўчаты свае вяснянкі. "Гуу!" — гучэла з аднаго боку вёскі. "Гу-у-гу!" — адзываліся маладыя галасы з другога боку сялібы. І зноў прыязджала вясна "на сошцы, бaронцы", "на залатым кані" даць цяпло, даць сонца, даць пачатак новаму ўраджаю.

**Якаў ЛЕНСУ,**
**кандыдат**
**мастацтвазнаўства.**
**Малюнкі аўтара**

АКСЕСУАРЧЫКІ

# SECOND HAND

У галерэі "Мастацтва" Саюза мастакоў Беларусі праходзіць выстава Руслана Вашкевіча. Экспазіцыя, складзеная з невялікай колькасці твораў, атрымалася канцэптуальнай. Я б ахарактарызаваў выставу як мастацкі Second hand — адпаведна аднайменнай працы. Бо Second hand — гэта адначасова крама і рука з прышпіленым шостым пальцам. Мастак як бы іранізуе з людзей, якія спрабуюць скарыстаць рэчы, што даўно павінны быць закапаныя. Вышэйназваная праца з'яўляецца без сумнення цэнтральнай, бо сама яна зроблена ў выглядзе скамянеласці і месціцца ў сярэдзіне залы. Падабаецца Вашкевічу гульня на мяжы звычайнага і патаемнага.



*"Second hand"*



*"Двуспальны капялюшык"*



*"Уласная справа кожнага"*

"Уласная справа кожнага" — гэта тоё штодзённае, што можа здарыцца з кожным. І падаецца ўсё гэта творцам з лёгкім налётам эротыкі. Светлыя фарбы, скарыстаныя ў творах, імкнуцца данесці да нас нешта чыстае, імгненнае. Працяг гэтай тэмы крыху ў іншым ракурсе можна назіраць у карцінах — "Левабаковы рух", "Белы капялюшык", "Двуспальны капялюшык". Адзіная праца, якая, па-мойму, моцна вылучаецца ў экспазіцыі — "Птушынае малако". Скрозь прыцэл стрэльбы мы бачым птушак, якія ляцяць на страле на фоне чыстага блакітнага неба. Птушкі — гэта будучыя экспанаты Second hand.

**Зміцер ВОЛКАЎ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



*"Левабаковы рух"*

# ЗОРКІ — "ЗОРКАМ"

## (Астрапрагноз на тыдзень з 11 да 17 жніўня для творцаў)

*Што тычыцца культурнага жыцця, тыдзень з 11 па 17 жніўня будзе эксцэнтрычным, але гэта наўрад ці перашкодзіць дасягнуць поспеху найбольш паслядоўным дзеячам. На пачатку тыдня шмат кім будуць закранацца пытанні веры, ідэалаў і вечнай тэмы дабрыні і зла. Прычым разглядацца гэтыя пытанні будуць у вельмі незвычайным аспекце. Гэты перыяд тоіць у сабе небяспеку ўзнікнення непаразумення на рэлігійна-маральнай глебе. Занадта моцным будзе жаданне перабудаваць свет па сваім разуменні і ў адпаведнасці са сваімі ідэаламі. Шмат каго такія спробы могуць прывесці да расчаравання — ці ў веры, ці ў сваіх сілах. Непажадана ў гэты час пільна цікавіцца тэмай насілля. Залішняя цікавасць да баевікоў і фільмаў жахаў можа парушыць эмацыйную раўнавагу. Сярэдзіна тыдня, наадварот, будзе насычана атмасферай эмацыйнага ўздыму і мэтанакіраванасці. Гэта — час прыняцця слушных рашэнняў і яркіх творчых знаходак. У гэты перыяд будуць з поспехам закладзены і праведзены перамовы з мецэнатамі і філантропамі. Разам з тым вельмі карысным будзе строгі, можна сказаць, класічны падыход да сітуацый. Увесь тыдзень, а асабліва ўік-энд, надзвычай спрыяльны для ажыццяўлення ўсякага роду відовішчаў, асабліва авангарднага і экспрэсіяніскага толку. Выхадныя дні будуць "залатым часам" для аматараў экстравагантнасці і эксцэнтрычнасці. Наогул гэтыя дні напоўняцца атмасферай цяпла і ўсепрыняцця і будуць прыемна адцяняцца гулліваcцю і непрадказальнасцю. Завяршэнне тыдня кожнаму з нас абавязкова прынясе шмат чаго незвычайнага, ну а хто чаго заслугоўвае — пакажуць падзеі ў нядзелю.*

Авены адчуюць доўгачаканы зрух у справах, якія замарудзіліся, гэта непазбежна ўзніме іх настрой і, магчыма, дастатак.

Цяльцам давядзецца прыняцца за прыборку ўласных майстэрань і наведаць помнікі даўніны. Асаблівы поспех прыйдзе да іх у рукадзеллі, а таксама ва ўпарадкаванні сваіх садоў.

Блізнятам наўрад ці давядзецца набыць новыя знаёмствы і мець поспех у грамадскіх арганізацыях, а вось хаджэнне па радакцыях, занятки пасрэдніцкай дзейнасцю абяцаюць быць плённымі. Не забудзьцеся больш пісаць і падпісваць. Вашыя рукапісы і аўтографы ў канцы тыдня прынясуць вам асаблівы поспех.

Ракам не варта чакаць міласці ад начальства. А вось іхнія падарункі будуць прынятыя з радасцю, забытыя даўжнікі да канца тыдня паспрабуюць заплаціць па рахунках.

Ільвам новы тыдзень прынясе росквіт. Іх жыццёвы тонус узрасце. З'явіцца магчымасць бліснуць у любой сферы дзейнасці, акрамя хіба замежных паездак і выдавецкіх справаў. На гэтым тыдні яны трапяць у цэнтр увагі і здолеюць натхніць многіх на высілкі.

Паннам варта сцерагчыся плётак, ананімак і інтрыг, а таксама ні ў якім разе не рабіць пазык і не звяртацца па крэдыты. Будзьце асцярожныя — на гэтым тыдні вас падсцерагае нейкае скандальнае здарэнне.

Шаляў чакае дзіўная напружанасць ва ўзаемастасунках з партнёрамі і малапрыемнае здарэнне ў час публічных мерапрыемстваў. Затое канец тыдня будзе адзначаны шэрагам яркіх знаёмстваў. Ён абяцае атрыманне значнага прыбытку і падорыць шмат надзей на паспяховае вырашэнне затармажаных праектаў.

Скарпіёнам давядзецца працаваць увесь тыдзень быццам рабам на будоўлі піраміды. Затое яны дасягнуць значных поспехаў, якія абавязкова будуць адзначаны іх кіраўніцтвам. І гэта адкрые перад імі доўгачаканыя перспектывы росту.

Стральцы наўрад ці здолеюць бліснуць на гэтым тыдні ў публічных выступах і відовішчах. Выйгрышы ў латарэі і азартных гульнях ім таксама не "свецяць". А вось паездка за мяжу і сустрэча са сваякамі з-за мяжы будуць зусім верагоднымі.

Казярогам давядзецца старанна займацца заканчэннем пачатых праграм, прысвячаючы ўвесь свой час у асноўным руціннай працы. Асаблівы поспех яны будуць мець у даследаваннях, рэвізіях і фарміраванні рознага кшталту фондаў і аб'яднання сродкаў.

Вадалеяў чакаюць затрымкі ва ўсякага роду паездках. Экскурсіі здадуцца ім малацікавымі, а часопісы малазмястоўнымі. Затое ім гарантаваны поспех у падпісанні доўгатэрміновых кантрактаў і партнёрскіх справах.

Рыбы могуць не разлічваць на атрыманне старых даўгоў і падвышэння ўзроўню дабрабыту. Затое ў іх будзе магчымасць бліснуць дасягнутым майстэрствам і мець поспех як паслядоўным і ўніклівым выкладчыкам.

**Аляксей КАРПІНСКІ,**
**рэферэнт**
**"Акварыуніверсітэта".**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ** (першы намеснік галоўнага рэдактара), **Арсен ВАНІЦКІ**, **Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), **Валерый ГЕДРОЙЦ**, **Уладзімір ГЛЕП**, **Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ**, **Сяргей ЗАКОННІКАЎ**, **Вольга ІПАТАВА** (рэдактар аддзела), **Ігар КЛОКАЎ** (рэдактар аддзела), **Анатоль КУДРАВЕЦ**, **Мікола КУПАВА**, **Алена ПІСЬМЯНКОВА** (рэдактар аддзела), **Міхаіл ПТАШУК**, **Алег ТРУСАЎ**, **Юрый ЦВЯТКОЎ**, **Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Міхась БАШУРА**, **Жанна ВАСАНСКАЯ**, **Барыс КРЭПАК**
Спецкарэспандэнты: **Зміцер ВІШНЁЎ**, **Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3450.

Падпісана ў свет 7.08.97. у 15.30.
Замова 4564.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.